НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 29 (770) 1 жніўня 2012

# Наша Ніва

www.nn.by

П Е Р Ш А Я Б Е Л А Р У С К А Я Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1 … ц: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Гісторыя кахання: Іржы і Лёкса

Ірына Марачкіна не дажыла паўтара месяца да залатога вяселля. Старонка 10.



## Нясвіж: радзівілаўскі гуляш з карэйскай морквай

Адкрыта для наведнікаў раней недаступная частка палаца. Старонка 6.



# Ахвяры фоташопа

Ігар Рачкоўскі і Дзмітрый Пахмелкін звольненыя за плюшавы дэсант. Жадобін атрымаў папярэджанне. Старонка 3.



КАЛАЖ СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

Тэндэнцыі

## На трасе М1 дазволяць ехаць да 140 км/г?

Брэсцкая **міліцыя прапануе** павысіць ліміт.

Міліцыя апытвала людзей, якім па сваёй дзейнасці даводзіцца шмат ездзіць, аналізавала дарожную сітуацыю.

«Аналіз аварыйнасці на трасе М1/Е30 паказвае, што асноўнай прычынай гібелі людзей з'яўляецца не хуткасны рэжым. Большай праблемай з'яўляецца тое, што вадзіцелі засынаюць за рулём», — адзначыў начальнік УУС Брэсцкага аблвыканкама Уладзімір Сычэўскі.

«Аднак гэта ўсё ж не аўтабан: да трасы прылягаюць населеныя пункты, не ў поўнай меры адпавядаюць крытэрыям аўтабанаў транспартныя развязкі. Таму размова не ідзе пра павышэнне хуткаснага рэжыму на ўсёй працягласці, а пра асобныя яе участкі, дзе сёння максімальная хуткасць — 120 км/г», — растлумачыў Сычэўскі.

Трасу Брэст-Орша, якая ўваходзіць у міжнародную аўтамагістраль М1, збудавалі перад маскоўскай Алімпіядай. За гады незалежнасці яе абнавілі і разбудавалі, у тым ліку дзякуючы еўрапейскім крэдытам.

Прапанова берасцейцаў спрэчная. З аднаго боку, траса сапраўды якасная і рэдка калі перагружаная. З другога боку, у адрозненне ад аўтабанаў, яна не абгароджаная. А чым большая хуткасць, тым большая імавернасць смяротнага выніку пры любой аварыі.

**Сяргей Гезгала**

Паралелі

### Беларусь і Чэхія: васямнаццаць гадоў развіцця

Чый шлях аказаўся больш удалым? **Старонка 2.**



Гаспадарка

### «Беларусбанк» адкрыў крэдыт «не для ўсіх»?

Падазроны варыянт праіснаваў толькі пару дзён. **Старонка 4.**




Камертон

### Смаленне Сержука, ці Як я кінуў курыць

Піша Сяргей Ваганаў. **Старонка 8.**



Палітыка

### «Кампанія не велька, але бардзо пожондна»

Лукашэнку не пусцілі на Алімпіяду. **Старонка 9.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Беларусь і Чэхія: васямнаццаць гадоў развіцця

Чый шлях аказаўся больш удалым? **Параўнаем вынікі.**



Развал сацыялістычнага лагера ў пачатку 1990-х даў двум дзясяткам краін шанец на незалежнае развіццё. Кожная з іх пайшла сваім шляхам.

Беларусь у 1994 абрала прэзідэнцкае кіраванне. Далей за год-два яна перайшла да аўтарытарызму і саюза з Расіяй. Беларускія ўлады апраўдваюць такі выбар «стабільнасцю» і «кіраванасцю».

Параўнальная з нашай краінай па колькасці насельніцтва Чэхія засталася парламенцкай рэспублікай. За 18 гадоў у гэтай краіне змянілася восем прэм'ер-міністраў. У Беларусі ж усё ніяк не сыдзе з пасады першы прэзідэнт...

Чэхія пайшла шляхам Еўрасаюза. Краіна карыстаецца нацыянальнай, чэшскай моваю, увайшла ў НАТА і Шэнгенскую зону. Тым часам Беларусь перажыла русіфікацыю, атрымала саюзную дзяржаву, расійскія датацыі, Мытны саюз і Адзіную эканамічную прастору.

Чаго дабіліся дзве славянскія нацыі за гэтыя 18 гадоў? «Наша Ніва» параўноўвае асноўныя статыстычныя паказчыкі развіцця Беларусі і Чэхіі (статыстыка афіцыйная).

Чэхам удалося дасягнуць устойлівага курса нацыянальнай валюты. Ніякіх дэнамінацый ці дэвальвацый — мясцовая крона нават умацавалася да даляра за два дзесяцігоддзі. Нізкая стаўка рэфінансавання, станоўчае сальда замежнага гандлю — усё гэта дазваляе захоўваць парытэты ў эканоміцы.

| Краіна | Беларусь | | Чэхія | |
|---|---|---|---|---|
| Год | 1995 | 2012 | 1995 | 2012 |
| Насельніцтва (тыс. чалавек) | 10 308 | 9 465 | 10 321 | 10 508 |
| Працягласць жыцця, гадоў | 68,6 | 70,6 | 73,2 | 77,5 |
| ВУП краіны, па парытэце купецкай здольнасці, $ мільярда | 34 | 141 | 141 | 273 |
| Курс даляра | 27 960** | 82 800 000*** | 27,9 | 20,6 |
| Стаўка рэфінансавання | 300% | 31% | (...) | 0,5% |
| Гадавая інфляцыя | 240% | 108,7%* | 8,8% | 1,9%*** |
| Сярэдні заробак | $70 | $450 | $300 | $1170 |
| Сярэдняя пенсія | $33 | $205 | $145 | $500 |
| Беспрацоўе | 2,9% | 0,6% | 2,9% | 8,1% |
| Сальда замежнага гандлю таварамі | -$760 мільёнаў | (…) | -$3,7 мільярда | $10,8 мільярда |

*дадзеныя за 2011 год **у дзень інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі (20 ліпеня 1994) ***з улікам дэнамінацый

Па многіх паказчыках наша краіна толькі цяпер, пасля 18 гадоў эканамічнага росту выйшла на той ўзровень, на якім Чэхія аказалася ў першыя гады рэформаў. Свае $500 жыхары краіны атрымалі яшчэ ў канцы 1990-х. Цяпер столькі там атрымліваюць пенсіянеры... Нарэшце, толькі летась памер ВУП Беларусі ў даляравым эквіваленце дасягнуў узроўню ВУП Чэхіі ў 1995.

Адзіная лічба, па якой Беларусь нібыта выглядае больш выйгрышна, — занятасць насельніцтва. Аднак прычына тут перадусім у рознай методыцы падліку беспрацоўных.

**Ягор Марціновіч**

## На «Поршэ» з сярпом і молатам

Беларуса ў Літву **не пусцілі.**

На ярка-чырвоным капоце гэтага супердарагога аўтамабіля былі намаляваныя жоўты серп, молат ды зорка. Памежнікі адправілі беларуса дахаты. Наш 26-гадовы суайчыннік спрабаваў праехаць у Літву праз пераход у Лаварышках. Дакументы ў гаспадара машыны былі ў парадку. Але ў Літве забаронена публічна дэманстраваць савецкую і нацысцкую сімволіку, таму памежнікі прапанавалі бонвівану працягнуць падарожжа пешшу або на аўтобусе. Мужчына адмовіўся і вярнуўся ў Беларусь.

**СГ**



Новы «Поршэ» каштуе ад 150 тысяч даляраў. Не кожны 26-гадовы хлопец мае такія грошы. Дарэчы, у савецкі час машыны кшталту «Поршэ» ў Саюзе не ездзілі. З сярпом і молатам можна было ездзіць на «Запарожцы» ці, у найлепшым выпадку, на «Волзе».

## Сціcла

### Град з перапялінае яйка

У Заходняй Беларусі сквар скончыўся градам і бурай. У панядзелак у Пінску зрывала дахі. А ў Навагрудку выпаў град памерам з перапялінае яйка. Чытачы сайта nn.by даслалі відэа гэтай незвычайнай з'явы.

### Пад Баранавічамі сутыкнуліся два матацыклы

Абодва ехалі ноччу без святла. Ні кіроўцы, ні пасажыры не мелі шлемаў. Адзін з матацыклістаў атрымаў сур'ёзныя траўмы.

### «Ліверпуль» рэкамендуе заўзятарам не фатаграфаваць у Беларусі міліцыянтаў

«Не піце вады з-пад крана, а толькі бутыляваную. Не спрабуйце пранесці алкагольныя напоі на стадыён. Ведайце, што ў Беларусі мала хто размаўляе па-англійску», — такія рэкамендацыі клуб разаслаў перад гульнёй з «Гомелем».

### Статкевічу адмоўлена ў змякчэнні рэжыму

Палітык таксама паведаміў у лісце жонцы, што кіраўніцтва магілёўскай турмы дало яму абяцанне больш не прапаноўваць напісаць прашэнне аб памілаванні.

### Паліцыя Ізраіля злавіла 30 педафілаў за адну ноч

Аперацыя рыхтавалася тры месяцы. Узрост затрыманых — ад 20 да 57 гадоў, сярод іх ёсць дзяржслужачыя, бізнесмены, студэнты і нават адстаўны супрацоўнік сілавых органаў.

### Арнольду Шварцэнэгеру — 65



Але на пенсію Арні не збіраецца. Неўзабаве на экраны выйдзе фільм «Нястрымныя-2», у якім Шварцэнэгер нагадаў пра сябе разам з іншымі ветэранамі сцэны — Сільвестрам Сталонэ, Чакам Норысам, Брусам Уілісам ды іншымі.

**ЗП, СП**

## Самае чытанае на nn.by за 25-31 ліпеня

1 Сям'я вярнулася з Даніі ў Валожынскі раён, каб жыць у беларускамоўным асяроддзі

2 Лукашэнку не пусцілі ў Лондан

3 «Жыве Беларусь!»: першыя ўражанні

4 Гігін адрэагаваў на заявы Лукашэнкі пра самалёт. Нецэнзурна — аўдыё

5 Лукашэнка прызнаў факт палёту шведаў. «Вінаватыя панясуць адказнасць»

6 Група жанчын у бел-чырвона-белых строях прайшліся праспектам Незалежнасці

7 Першы беларускі аблом: Новікава заняла 7-е месца

8 Рачкоўскі і Пахмелкін у адстаўцы за плюшавы дэсант

9 «Советская Белоруссія» звінаваціла пасла Эрыксана ў веданні беларускай мовы

10 «Наша дачка ўжо ведае, што ў адміністрацыі жыве Бармалей»

# Ахвяры фоташопа

Генералы **Ігар Рачкоўскі і Дзмітрый Пахмелкін** адпраўлены ў адстаўку за шведскіх мядзведзікаў.

26 ліпеня Лукашэнка на нарадзе з сілавікамі прызнаў, што шведскі самалёт усё ж незаконна перасякаў мяжу 4 ліпеня. «Як растлумачыць правакацыю з лёгкаматорным самалётам, які не толькі перасёк мяжу, але і беспакарана ўварваўся на тэрыторыю Беларусі?» — пытаўся Лукашэнка.

Ён паабяцаў, што «максімум у панядзелак мною будзе прынята рашэнне, у тым ліку і кадравыя рашэнні». «Мужыкі, мы ўсе людзі дарослыя, вінаватыя за гэта павінны адказваць», — зазначыў ён. У выніку звальненні адбыліся ў аўторак.

Старшыня Дзяржпагранкамітэта генерал-маёр Ігар Рачкоўскі і камандуючы ВПС і войскамі СПА Узброеных Сіл генерал-маёр Дзмітрый Пахмелкін вызваленыя ад займаных пасадаў за неналежнае выкананне службовых абавязкаў па забеспячэнні нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь. Так гучыць афіцыйная трактоўка.

Ігар Рачкоўскі будзе залічаны ў распараджэнне Дзяржпагранкамітэта, Дзмітрый Пахмелкін — у распараджэнне міністра абароны.

Аб няпоўнай службовай адпаведнасці папярэджаныя міністр абароны генерал-лейтэнант Юрый Жадобін і ягоны намеснік генерал-маёр Пятро Ціханоўскі. Акрамя таго, абвешчаны вымовы дзяржаўнаму сакратару Рады Бяспекі Беларусі генерал-палкоўніку Леаніду Мальцаву і старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі генерал-лейтэнанту Вадзіму Зайцаву.



Ігар Рачкоўскі і Аляксандр Лукашэнка.

### Небяспечная прафесія

У войскаў СПА будзе чацвёрты кіраўнік за паўтара года. У снежні 2010 быў арыштаваны кіраўнік Вайскова-паветраных сілаў і Супрацьпаветранай абароны Ігар Азаронак. Пад варту яго ўзялі за лабіраванне інтарэсаў адной расійскай кампаніі. У выніку Азаронак атрымаў 9 гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

На месца Азаронка быў прызначаны Сяргей Лемяшэўскі. Але ў лютым сёлета быў адпраўлены ў адстаўку з фармулёўкай «за правіны, што дыскрэдытуюць званне ваеннаслужачага». Праўда, у турму Лемяшэўскі не трапіў.

У той самы дзень Лукашэнка даў згоду на прызначэнне Дзмітрыя Пахмелкіна, які трапіўся на выпадку з «медзведзіроўшчыкамі».

### Сурапін і Башарымаў у падвешаным стане

«Даследуючы прадастаўленыя фота- і відэаматэрыялы, эксперты выявілі грубую працу з ужываннем тэхналогій фатапшопа і відэамантажу, што сведчыць аб відавочна правакацыйным характары пададзенай інфармацыі», — гэта была першасная рэакцыя ў Міністэрстве абароны. Атрымліваецца, што двух генералаў адправілі ў адстаўку за фатапшоп.

Падвешанай застаецца сітуацыя з журналістам Антонам Сурапіным і рыэлтарам Сяргеем Башарымавым. Абодва працягваюць знаходзіцца ў СІЗА КДБ. Няясным застаецца, ці пераведзены Сурапін у статус абвінавачанага. Абодвух хлопцаў падазраюць у датычнасці да незаконнага перасячэння мяжы. Amnesty International прызнала Сурапіна вязнем сумлення.

### Гігін матам

«Я, б..., радыё «Свабода» нічога, прабачце, нічога ні пацвярджаць, ні абвяргаць не збіраюся», — пракаментаваў ідэолаг, галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка» Вадзім Гігін прызнанне Лукашэнкі, што шведскія мядзведзікі былі. Перад гэтым Вадзім Гігін у блогу на сайце БелТА тлумачыў, чаму медзведзіроўшчыка быць не магло.

Зміцер Панкавец

### Камандзір Дзмітрыя і Віктара Лукашэнкаў

Ігар Рачкоўскі рабіў бліскучую кар'еру. У 39 ён стаў старшынёй Памежнага камітэта. Да прызначэння на пасаду галоўнага пагранічніка краіны ён узначальваў Асобную службу актыўных мерапрыемстваў (АСАМ) памежных войскаў — тую самую, дзе служылі Віктар і Дзмітрый Лукашэнкі.

«Яны і пад дажджом былі, і на марозе. Словам, служылі, як усе. Я іх добра ведаю. І адносіны гэтыя падтрымліваюцца. Але казаць пра неверагодную блізкасць да прэзідэнцкай сям'і не выпадае», — казаў Рачкоўскі пра асабістыя дачыненні з сынамі Лукашэнкі.

У сваёй працы ў камітэце Рачкоўскі імкнуўся да еўрапейскіх стандартаў. Ён мадэрнізаваў працу памежнікаў. Нават прымушаў іх усміхацца пры кантактах з грамадзянамі. «Беларуская мяжа стала аператыўнай, зручнай, ветлай і, калі хочаце, добрэйшай», — зазначаў Рачкоўскі. Дарэчы, найбольш цяжкім участкам працы ён называў мяжу з Расіяй, якой «нібыта і не існуе». Але вось мядзведзікаў не ўгледзеў.

ЗП

### Каментар

**«Швецыя праяўляе незразумелую актыўнасць»**

Калумніст «СБ» Уладзіслаў Шымаў у свежым нумары выдання разважае пра магчымыя прычыны «авіяцыйнай правакацыі». Ён лічыць, што «правакацыя ўдалася» і што гэта «трывожны званок, да якога варта паставіцца з максімальнай сур'ёзнасцю».

«Швецыя праяўляе, на першы погляд, незразумелую актыўнасць на беларускім накірунку. Вельмі незвычайная фігура шведскага пасла спадара Эрыксана, які валодае беларускай мовай і актыўна яе выкарыстоўвае. Ужо адно гэта з'яўляецца яркім сведчаннем павышанай цікавасці Швецыі да Беларусі», — піша Шымаў.

---

**Фотафакт**



27 ліпеня, у дзень абвяшчэння Дэкларацыі аб суверэнітэце, мінская пенсіянерка Ніна Багінская выйшла з бел-чырвона-белым сцягам да будынка суда Першамайскага раёна сталіцы. «Удзел у палітыцы бяруць прыкладна 28% насельніцтва — закон палітологіі, — сказала жыхарка Мінска «Нашай Ніве». — Большасць людзей думае, што выжывае той, хто маўчыць. А я сваім прыкладам паказваю, што гэта не так».

Сяргей Макарэвіч

## Сяргей Каваленка напісаў прашэнне аб вызваленні

З ім **бачылася** ў турме **жонка**.

Сяргей Каваленка расказаў ёй, што напісаў ліст на імя Лукашэнкі з адным радком: «Прашу мяне памілаваць». Сваёй віны ён не прызнаў.

Сваякі адзначаюць, што з Сяргея ў калоніі хочуць зрабіць злоснага парушальніка. Сяргей сказаў, што напісаў прашэнне, калі зразумеў, што больш патрэбны сям'і і грамадству на волі, чым у турме.

Сяргей Каваленка стаў вядомым сваім учынкам на Раство ў 2010, калі вывесіў на навагодняй ялінцы ў Віцебску аграмадны бел-чырвона-белы сцяг. За гэта яго асудзілі да хатняй «хіміі». А потым адправілі ў турму на 2 гады і 1 месяц за парушэнне адбыцця пакарання.

ЗП

**Сціслa**

### Грамадская рада пры МУС

Будзе створаная з прадстаўнікоў культуры, СМІ, ветэранаў міліцыі. Такую ідэю агучыў міністр унутраных справаў Ігар Шуневіч. Чыноўнік адзначыў, што змены ў ведамстве будуць узважаныя і прагматычныя.

### Румас больш не віцэ-прэм'ер

Яго прызначылі ў «Банк развіцця Рэспублікі Беларусь», што быў створаны па рэкамендацыі МВФ. Румаса называлі рынačнікам ва ўрадзе Мясніковіча. Праўда, не ўсе свае задумы ён мог рэалізаваць.

### Навальнаму прад'явілі абвінавачанне

Па версіі следства, быўшы дарадцам губернатара Кіраўскай вобласці, ён «арганізаваў крадзеж маёмасці дзяржаўнага прадпрыемства «Кіраўлес». Навальны — адзін з лідараў новай расійскай апазіцыі.

### Міт Ромні асудзіў дыктатуру Лукашэнкі

«Проста на ўсход адсюль народ Беларусі пакутуе ад прыгнёту», — сказаў кандыдат у прэзідэнты ЗША ад рэспубліканскай партыі. Абама ж за час прэзідэнцтва ні разу не спаткаўся з беларусамі.

ЗП

# «Беларусбанк» адкрыў крэдыт «не для ўсіх»?

**Падазроны варыянт са стаўкай, ніжэйшай за рынкавую, праіснаваў толькі пару дзён.**

Ад пачатку ліпеня «Беларусбанк» запусціў крэдытную прапанову «Святкуем разам». Яна мусіла дзейнічаць да канца 2012, прычым з надзвычай выгаднымі ўмовамі: сума да 20 мільёнаў рублёў выдавалася на 1,5 года пад 29% гадавых. Гэта на 3% ніжэй за тагачасную стаўку рэфінансавання. Грошы маглі адразу быць выдадзеныя наяўнымі, прычым атрымаць іх можна было без паручальнікаў, а для разгляду заявы нават не мусіў склікацца крэдытны камітэт.

Для параўнання, сярод іншых банкаў самую блізкую прапанову меў «Франсабанк» (35%), а астатнія выдавалі наяўныя грошы без паручальнікаў пад 43% і больш.

Атрымалася падазроная схема. Кліенты «Беларусбанка» маглі атрымаць грошы пад 29% і адразу ж пакласці іх у банк на дэпазіт пад 31,5-35% ці набыць аблігацыі са стаўкай 43-47%. Зарабіць на гэтым пагадзіўся б кожны — напярэдадні дэвальвацыі 2011 года прадбачлівыя беларусы таксама панабіралі спажывецкіх крэдытаў, якія за пару месяцаў з'ела інфляцыя.

Па прычыне святаў у пачатку месяца крэдыт «Святкуем разам» фактычна пачаў працаваць толькі 4 ліпеня, без рэкламнай кампаніі і анонсаў. Пра яго няма ніводнай згадкі нават на сайце банка. І ўжо праз тыдзень, 12 ліпеня, унутраным распараджэннем выдача грошай была прыпыненая на нявызначаны тэрмін. Як патлумачылі ў інфармацыйнай службе «Беларусбанка», паступіла зашмат заявак на крэдыт. Сітуацыя выглядае абсурднай: банк робіць камерцыйную прапанову, аднак не хоча, каб ёй карысталіся кліенты. Колькі чалавек паспелі атрымаць дармовыя грошы дзяржаўнага банка ў першыя дні працы «Святкуем разам» і хто гэтыя людзі — камерцыйная таямніца, якая мусіла б зацікавіць кантралюючыя органы.

**Ягор Марціновіч**

# МУС і Белстат абвяргаюць Лукашэнку

**Летась новых аўтамабіляў было зарэгістравана не больш, чым раней.**

Аляксандр Лукашэнка, спрабуючы растлумачыць прычыны эканамічнага крызісу 2011, неаднаразова валіў на аўтамабілістаў. «Вядома, нас вельмі моцна падкасіў ажыятаж з аўтамабілямі. Мы паглядзелі, там больш за мільярд», — казаў ён у красавіку мінулага года. Да канца года сума, патрачаная на аўто, па падліках Лукашэнкі, вырасла да $3 мільярдаў.

Так, многія беларусы набывалі аўтамабілі на Захадзе, але яны ж перапрадавалі іх у Расію ці ў Казахстан. Міністэрства ўнутраных спраў і Белстат маюць на гэты конт сваё меркаванне, падмацаванае лічбамі. Штогод ведамствы падлічваюць колькасць зарэгістраваных у краіне аўтамабіляў. На канец 2011 у Беларусі было 2 646 тысяч легкавікоў, прычым прырост за крызісны год склаў 145 тысяч аўто. Насамрэч нямала, але ў 2010 колькасць аўтамабіляў вырасла яшчэ больш — на 161 тысячу! Глядзім далей: у папярэднім, 2009, легкавікоў стала на 149 тысяч больш. Усе тры лічбы параўнальныя, але раней сітуацыя з аўтамабілямі да абвальных дэвальвацый не прыводзіла.

**ЯМ**

**Рост колькасць аўтамабіляў за год**






**Колькасць зарэгістраваных легкавікоў у Беларусі*; тысяч аўтамабіляў**




*на канец года

# Дзяржава прыглядаецца да «Камунаркі» і «Спартака»

**Кандытарскія кампаніі пакуль належаць бізнэсмэну Марату Новікаву.**

Улады спрабуюць вярнуць пад свой поўны кантроль дзве галоўныя кандытарскія фабрыкі краіны — мінскую «Камунарку» і гомельскі «Спартак», дзе шырока прадстаўлены інтарэсы бізнэсмэна Марата Новікава.

Першы крок у гэтым кірунку быў зроблены некалькі месяцаў таму. Дзяржава павялічыла сваю долю ў «Камунарцы» да 22%, у «Спартаку» — да 16%. Большасць акцыяў па-ранейшаму належыць структурам Новікава і фізічным асобам, былым і цяперашнім работнікам фабрык.

Аднак гэтага дзяржаве аказалася недастаткова. Некалькі тыдняў таму акцыянерам «Камунаркі» прапанавалі дадатковую эмісію акцый, у выніку чаго доля дзяржавы павялічылася б да 55%. Акцыянеры пакуль адхілілі гэты варыянт.

Тым часам дзяржава робіць сваё прадстаўніцтва ў кампаніях усё больш уплывовым. У «Камунарцы» ў органы кіраўніцтва ўведзены віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы, а ў «Спартак» — губернатар Гомельшчыны Уладзімір Дворнік.

**ЯМ, інф. Tut.by**

**Марат Новікаў**

бізнэсмэн, які нарадзіўся і атрымаў адукацыю ў Беларусі, але больш за 10 гадоў жыў у ЗША. Мае амерыканскае грамадзянства. У сярэдзіне 1990-х пачаў бізнэс у Беларусі, стаў акцыянерам «Камунаркі» і «Спартака».

За апошні час дзяржава атрымала кантроль на паспяховых прыватных «Пінскдрэве» і «Кераміне».

## Ці распадзецца Беларуская калійная кампанія?

**«Беларуськалій» і «Уралкалій» спрачаюцца за квоты на экспарт калію.**

Расійскія аналітыкі не выключаюць магчымасці развалу «Беларускай калійнай кампаніі» (БКК) праз канфлікт інтарэсаў акцыянераў.

Кампанія была заснава-ная ў снежні 2005 «Беларуськаліем» (валодае 45% акцый сумеснай кампаніі) і расійскім «Уралкаліем» (50%). Апроч таго, 5% акцый валодае Беларуская чыгунка. Такім чынам, беларусы і Расія валодаюць кампаніяй 50 на 50. Створана яна была для экспарту калійных угнаенняў, каб узяць гэтую сферу пад кантроль.

Беларускі ўрад высока ацаніў вынікі яе дзейнасці. На думку ўрадаўцаў, дзякуючы кампаніі, удалося дыктаваць цэны на рынках. Калійная сфера па-дзеленая між нешматлікімі вытворцамі. Асноўную долю сусветнага рынку кантралююць Беларусь, Канада і той самы «Уралкалій».

Пры стварэнні кампаніі агаворвалася, што экспартныя квоты будуць размяркоўвацца зыходзячы з вытворчых магутнасцяў салігорскага і ўральскага заводаў. Доля «Беларуськалія» тады складала каля 60%, «Уралкалія» — 40%.

Аднак цяпер сітуацыя змянілася. У Расіі ў здабычу былі ўкладзены немалыя рэсурсы, і яна павялічылася. Сёлета «Беларуськалій» плануе вырабіць толькі 9-9,5 мільёнаў тон калійных угнаенняў, а «Уралкалій», зацікаўлены ў максімальным павелічэнні продажаў, — ажно 10,5-10,8 мільёна. У выніку квоты беларусаў зменшацца да 47%.

Беларускі бок запатрабаваў перагляду. Ён хоча прынамсі парытэту. Па гэтых пытаннях ідуць напружаныя перамовы. Магчыма, на канфлікт накладаецца яшчэ і жаданне Расіі атрымаць кантроль над «Беларуськаліем». Прэм'ер-міністр Расіі Дз. Мядзведзеў настойліва гаварыў пра гэта падчас свайго апошняга візіту ў Мінск.

Эксперты не выключаюць нават распаду БКК. Гэты варыянт пацягнуў бы за сабой далёкія эканамічныя і нават палітычныя наступствы.

**Сяргей Гезгала**

## Сцісла

### Сярэдні заробак перавысіў $450

За чэрвень сярэдні беларус зарабіў 3,75 мільёна рублёў, пабагацеўшы за месяц амаль на 200 тысяч рублёў. У эквіваленце гэта ўжо $451. А ў Мінску тым часам у сярэднім ужо зарабляюць $578.

### Вераб'ю далі яшчэ адзін нафтаперапрацоўчы завод

Наваполацкая кампанія «Інтэрсервіс», якой валодае мясцовы бізнэсмэн Мікалай Верабей, атрымае за $4,5 мільёна бітумны завод «Вёска-ЭмульБіт» у Чэрвеньскім раёне. На яго базе будзе пабудаваная нафтаперапрацоўчая вытворчасць. Летась прадпрыемства ўжо было прададзенае расійскай кампаніі «Нафтабуд» за $30 мільёнаў.

### Аманскі інвестар не прыйшоў

Участак 2-й клінічнай бальніцы Мінска ў межах вуліц Купалы, Багдановіча і ракі Свіслач так і не дачакаўся інвестыцый. Аманскія бізнэсмэны, якія без правядзення аўкцыёну атрымалі зямлю за $10 мільёнаў, меліся пабудаваць пяцізоркавы гатэль і элітныя дамы. Інвестары так і не пачалі дзейнасці, таму ўнікальны кавалак так званай Траецкай гары зноў выстаўлены на продаж.

### Багатыя кампаніі пералічаць у бюджэт $70 мільёнаў

Пяць высокарэнтабельных прадпрыемстваў будуць павінны пералічыць у бюджэтны фонд нацыянальнага развіцця частку прыбытку за першы квартал 2012. У «БелАЗа», МТЗ, «Бабруйсксельмаша», «Гомельтранснафты Дружба» і Мінскага электратэхнічнага завода імя Казлова возьмуць каля $70 мільёнаў.

**ЯМ**

## Удакладненне

У «НН» №26 ад 11 ліпеня 2012 у артыкуле «Чыю ваду п'юць беларусы» былі дапушчаныя некалькі недакладнасцяў.

Паведамляем, што сын дырэктара Мінскага завода безалкагольных напояў (МЗБН) Дзмітрый Арцюхоўскі, які раней займаў пасаду начальніка аддзела маркетынгу прадпрыемства, на дадзены момант там не працуе. У сталічным гандлі па пазіцыі «мінеральная вада» МЗБН мае дамінуючае палажэнне, але яго доля складае каля 30%. Апроч таго, завод не выпускае віскі і спыніў вытворчасць кан'якоў.

# Узорна-паказальныя могілкі ў Крупцах

Клады каля **уздоўж прэзідэнцкай трасы**, перажылі красамоўную рэканструкцыю.

Могілкі «Крупцы» (Фрунзенскі раён) пачалі парадкаваць 1 чэрвеня. Кіраўнікі сталічнай камунальнай гаспадаркі кажуць, што працы вядуцца згодна з даручэннем Лукашэнкі.

Могілкі ляжаць каля так званай прэзідэнцкай трасы. Літаральна за агароджай будуецца гіганцкая штаб-кватэра Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Праз дарогу — забаўляльны комплекс кампаніі «Трайпл».

Працы вядуцца з размахам. Гэта насцярожыла сваякоў пахаваных. Асабліва пасля таго, як на тэрыторыю кладоў пусцілі тэхніку.

На могілках карэспандэнта «Нашай Нівы» сустрэў мужчына, які пры з'яўленні чалавека з фотаапаратам адразу ж адлучыўся ад групы рабочых. Ён не назваўся, але тут жа прапанаваў правесці экскурсію. Выглядаў ён як прараб або майстар.

Па яго словах, напружанасць са сваякамі пакрыху спадае. «Спачатку ў людзей было мала інфармацыі пра тое, што тут бу-дзе рабіцца» — паведаміў мужчына.

Добраўпарадкаваннем займаюцца некалькі арганізацый. Адна з іх расчышчае тэрыторыю ад бур'яну і кустоўя, другая кла-дзе плітку і парадкуе разбураныя магілы. Трэцяя займаецца азеляненнем.

Суразмоўца пераконваў, што ніводнае надмагілле не заменяць на новае без згоды сваякоў. «Калі нехта супраць, то ён піша заяву, і мы пакідаем усё — і магілу, і агароджу вакол яе» — дадаў ён. У якасці прыкладу ён паказвае рукой на акуратнае пахаванне, аточанае металічнай агароджай. Вакол яго некалькі навюткіх надмагілляў, якія паклалі на месцы разбураных помнікаў.

На сённяшні дзень могілкі расчышчаныя напалову. Сімвалічная мяжа паміж ачышчанай тэрыторыяй і зараслай кустоўем пазначаная дарожкай з пліткі. «Любая такая маштабная праца не абыдзецца без тэхнікі», — тлумачыць суразмоўца. Мы акурат стаім у каляіне ад слядоў, што пралегла сярод надмагілляў.

У пароcлай травой і бэзам частцы могілак сустракаецца смецце, пляшкі ад спіртнога. «Прыбіраць трэба. Бачыце, як здзічэла тут усё. Такія зараснікі прыцягваюць не самых лепшых людзей», — кажа мужчына. Цяжка не пагадзіцца. Па дарозе да могілак сустрэў тры кампаніі каля крамы «Рамонак», якія пілі гарэлку з півам, зусім не хаваючыся.

Працы на Крупцоўскіх могілках павінны скончыцца да канца года.

**Сямён Печанко**

**Могілкі «Крупцы»** заснавалі ў 1876, зачынілі ў 1973. Тут пахавана каля 700 чалавек, агульная плошча складае каля 1,16 га.

**У 1972 вёску Крупцы**, на тэрыторыі якой месціліся могілкі, далучылі да Мінска. А разам з ёй і пасёлак Піянерскі. Няцяжка здагадацца, што могілкі назвалі «Піянерскімі». Сучасную назву могілкі атрымалі ў 2009.










«Непрэзентабельныя» крыжы замяняюць «еўраплітамі».

In memoriam

## Аляксандр Колбышаў

Акцёру і рэжысёру было **52 гады**.



Ён быў афганец. А жыў у Брэсце, граў там у тэатры — рэдкі выпадак для акцёра кіно. Дактары папярэдне лічаць, што тромб закупорыў сасуд у яго сэрцы. «Ён сябе дрэнна адчуваў апошні месяц, душыла ў грудзях, — расказала нам жонка Аляксандра. — А лекары так і не змаглі высветліць, што ў яго за хвароба». Ён памёр раптоўна ў ноч на 30 ліпеня.

Аляксандр Колбышаў нарадзіўся ў 1960 у Данецкай вобласці Украіны, у шахцёрскай Горлаўцы. Трапіў на вайну ў Афганістане ў 1979, у складзе «абмежаванага кантынгенту» ВДВ СССР. Быў паранены там.

Пасля была праца на шахтах. Адначасова граў у народным тэатры. У 1987 скончыў Кіеўскі нацыяльны ўніверсітэт тэатра і трапіў па размеркавані ў Брэсцкі драматычны.

«Аляксандр увесь час развіваўся як творчая асоба, — узгадвае актрыса Наталля Кліманава, якая працавала з Колбышавым у Брэсце. — Паступіў на рэжысуру, стаў выдатным пастаноўшчыкам».

У 1998 Колбышаў сканчае кінафакультэт Акадэміі мастацтваў. Там з ім пазнаёміўся рэжысёр Андрэй Кудзіненка, у далейшым блізкі сябар Колбышава.

«Мы вучыліся разам у майстэрні Віктара Турава, — расказвае Кудзіненка. — У Акадэміі трапілі ў адзін пакой інтэрната. Саша быў сапраўдным нонканфармістам. Часам жорсткім — ён быў такім рэжысёрам-«дыктатарам». Пры гэым як акцёр вельмі любіў імправізаваць. Я лічу, што яго найлепшая роля — у «Акупацыі», партызана Штыркіна. Пасля ён здымаўся ва ўсіх маіх фільмах. Літаральна тры дні таму мы абмяркоўвалі новую ролю».

Адзіны паўнаметражны фільм Колбышава «Ваўкі» выйшаў у 2010. Крытыка назвала яго «антытаталітарнай драмай». Фільм атрымаў некалькі ўзнагародаў на кінафестывалях.

«Пасля ён падаваў заяўку на конкурс Міністэрства культуры, але яе не падтрымалі. Гэта пры тым, што Колбышаў дакладна ўваходзіў у тройку найлепшых беларускіх рэжысёраў, — расказвае сцэнарыст Андрэй Курэйчык. — Апошнія некалькі гадоў яму даводзілася здымаць ідыёцкія расійскія серыялы, каб карміць сям'ю. У той час як ён мог стварыць сапраўдны нацыянальны кінематограф».

**Юрась Ускоў**

# Нясвіж: радзівілаўскі гуляш

Карэспандэнт наведаў замак Радзівілаў **пасля рэканструкцыі**.


Адкрыта для наведнікаў раней недаступная частка палаца

Дарога з Мінска ў Нясвіж, па самых урадлівых землях Беларусі, надзвычай прыгожая ў жніво. Да небакраю сцелюцца палі з залатымі качулкамі.

А ў Нясвіжы ля замка — як на кірмашы. Прыпаркавацца няма дзе, апроч забароненых знакамі зонаў. І яны застаўленыя машынамі з мінскімі, магілёўскімі, гродзенскімі, расійскімі, латвійскімі нумарамі.

Няспешны рух у пошуках вольнага месца раптам спыняецца: наперарэз аўто ляціць двухконная брычка, якой кіруе цыганаваты мужык-беларус у вышыванцы і брылі.

У Фарны касцёл канвеерам ідуць вясельныя працэсіі. Пасля вянчання маладыя накіроўваюцца ў замак — абавязковы фон для вясельнага фота.

Крамкі з сувенірнай прадукцыяй пры браме радзівілаўскага парку перажываюць аблогу. Рэчы спрэс карысныя: ліхтарыкі з радзівілаўскай манаграмай, ігральныя карты з выявамі замка.

### Беларускамоўны экскурсавод адпачывае

Экскурсавода беларускамоўнага не дашукацца. Ён адзін на ўвесь палацава-паркавы комплекс і знаходзіцца ў адпачынку. «Навошта? У такую гарачыню хадзіць па замку з экскурсаводам — гэта пекла», — кажа адміністратарка.

Уваход у замак каштуе па-радзівілаўску: 50 тысяч за поўны білет.

### Тут была «Міжкалгасздраўніца»

У канцы 90-х на фасадзе замка яшчэ стаяў надпіс «Межколхозздравница»: сцены ўсярэдзіне былі памаляваныя жоўтай алейнай фарбай, ляжала бальнічная плітка, а медсястра выганяла экскурсіі на вуліцу крыкамі: «Вы са сталовай усё пакрадзеце!»

Пасля радзівілаўскі палац зрабіўся больш даступным. Нават у канцы 2000-х, у разгар рэканструкцыі, можна было трапіць усярэдзіну. Па шчыкалатку ў гразі дабрацца да задніх дзвярэй, ісці па чорнай лесвіцы, на кожным паверсе якой яшчэ з часоў вайны, калі ў замку быў шпіталь, захаваліся печкі-буржуйкі, уздымацца на вежу.

### Усё падабаецца

Сёння спадзеў аблазіць увесь замак можна пакінуць ля брамы. Не пускаюць на вежы, на валы, у падзямеллі. Экскурсанты цугам ідуць з пакоя ў пакой: архіў, бібліятэка, грымёрка прыгонных артыстаў з габеленам-«Пагоняй» на сцяне... Каб працягнуць экскурсію, трэба выходзіць у двор і сунуцца ў іншае крыло. Па лабірынтах не паблукаеш: рух рэгулюецца таблічкамі «Праход забаронены».

У залах духата і скучанасць. У кожнай працуе экскурсавод з групай. Па-за ўвагай застаюцца недакладнасці ў подпісах да экспанатаў, мэбля XIX стагоддзя ў інтэр'ерах XVIII-га і «дакладная копія» глобуса Мікалая Радзівіла Сіроткі — з пазначаным на ім Берынгавым пралівам і падрабязнай берагавой лініяй Паўднёвай Амерыкі, у пачатку XVII ст. невядомымі.

**Нясвіж**

Вядомы з 1223. Ад XVI ст. належаў Радзівілам. Лічыўся ардынацыяй.


Супрацоўнікі палаца ездзяць на працу на роварах.

**Ардынацыя**

Уладанне, якое не дзялілася між нашчадкамі, а пераходзіла да старэйшага сына. Ардынацыю нельга было ні прадаць, ні аддаць у заставу. Дзякуючы такому правілу Радзівілы ўтрымалі Нясвіж праз доўгія стагоддзі.




**Спадчына Сіроткі**

Мураваны Нясвіжскі замак быў закладзены ў 1583 Мікалаем Радзівілам Сіроткам на месцы драўлянага родавага гнязда. Пасля 1726 замак аднаўлялі і перабудавалі. Пейзажныя паркі вакол замка закладзеныя ў 1879.

**Што новага можна пабачыць**

У Нясвіжы адкрыліся для наведвання Бальная, Вялікая камінная, Малая сталовая, Гетманская і Зорная залы, а таксама апартаменты князя, арсенал, капліца, памяшканне архіва. У грымёрнай прыгонных артыстаў працуе выстава графікі XIX ст. з малюнкамі Гротгера, прысвечанымі паўстанню Каліноўскага.

**Цана культуры**

Поўны квіток у Нясвіжскі палац каштуе 50 тысяч рублёў. Квіток для студэнтаў і школьнікаў — 25 тысяч. Дашкольнікам — бясплатна. Замовіць экскурсію — 39 тысяч.


У эклектычна аформленай страўні гучыць музыка XVII ст.

**Мясцовыя прадукты**

У мястэчку Сноў пад Нясвіжам вырабляюць папулярныя кілбасы. Фірмовыя вяндліны прадаюць у міні-маркеце ў самім Снове, і скрозь у Нясвіжы. У Гарадзеі працуе вялікі цукровы камбінат.

**Абед у Замку**

У рэстаране ў самім замку падаюць як традыцыйныя стравы, так і сучасную еўрапейскую кухню. Атмасфера ў страўні рамантычная, кухня — без вышуканасці, хатняга тыпу.

**Цэны:**

фірмовы гуляш па-радзівілаўску, у арэхавай падліве, з гарнірам 53 400

стэйк 42 500

яечня са смажанай кілбасой 20 900

салата «Цэзар» 27 000

марожанае 22 000

бульба 9 000

булён 9 900

кока-кола 9 000

кава 10 500

чай 9 500

# з карэйскай морквай



**Радзівілы**

Слаўны род з Вялікага Княства. Упершыню на гістарычную арэну выйшлі ў XV ст. Родапачынальнікам лічыцца Радзівіл Осцікавіч (?—1477). Яго ўнук Юры, гетман Вялікага Княства, атрымаў мянушку «Геркулес Літоўскі», бо перамог у трыццаці бітвах. Праўнукі, два Мікалаі, Чорны і Руды, былі найбуйнейшымі палітыкамі і мецэнатамі свайго часу, іх сястра Барбара нават стала каралевай, узяўшы шлюб з Жыгімонтам Аўгустам. Радзівілы былі і ўмелымі гаспадарамі: збіралі землі вёску да вёскі, горад да горада. Яны валодалі Нясвіжам, Слуцкам, Геранёнамі, Давыд-Гарадком, Клецкам, Мірам, Мядзелам, а таксама Алыкай ва Украіне і Біржамі ў Літве. Сын Мікалая Чорнага, Мікалай Радзівіл Сіротка здзейсніў падарожжа ў Святую зямлю і пакінуў найцікавейшы дзённік пра яго. Вялікі гетман Януш Радзівіл выношваў амбітныя планы разарваць унію з Польшчай і звязаць лёс нашай краіны са Швецыяй... Апошні ардынат Нясвіжы Альбрэхт Антон Вільгельм Радзівіл у 1935 эміграваў на Захад. Яго дачка Альжбета Радзівіл наведвала Нясвіж пасля рэстаўрацыі.

## Што сапраўднае?

Нясвіж можа быць прыкладам страшнага разрабавання, якое зазнала Беларусь у ХХ стагоддзі. Ніводзін пакой не захаваўся цалкам.

Экскурсаводы як прадмет асаблівага гонару паказваюць сапраўдныя арэхавыя панэлі ў Малой сталовай, кавалкі арыгінальнай падлогі ў цэнтры пакоя нумізматычнай калекцыі або кажуць пра 5% старой столі, якая захавалася ў іншых.

Вялікая камінная зала — адна з тых, што захаваліся найлепш. Шыкоўны камін, аздоблены львінымі пашчамі, бэлькі, пацягнутыя чорным лакам, партрэты Радзівілаў на сценах... І вялікая колькасць рознакалібернай мэблі.

Яе ў палацы многа, яна розных часоў, але мала што радзівілаўскае.

Пытанне, што сапраўднае, што «тых часоў», а што нават і не тых, узнікае пастаянна.

Безумоўна сапраўдныя кавалкі слаістай муроўкі, якія можна бачыць, калі праігнараваць забараняльную таблічку і ўзняцца на вал.

Сапраўдныя — «мармуровыя» калоны ў бальнай зале. Мала хто ведае, што мармур нашы продкі рабілі з дрэва і саломы: у кожнай з калонаў, распісаных «пад мармур», хаваецца таўшчэзнае смалістае бервяно, абкручанае саламяным канатам і патынкаванае зверху. «Салома васямнаццатага стагоддзя!» — тыцкаў пальцам у выбоіну вартаўнік, што вадзіў нас калісь па замку за бутэльку. Экскурсаводы на гэтыя цуды імпартазамяшчэння увагі не звяртаюць. А шкада.

Са зброяй тая ж гісторыя, што з мэбляй: спрэс муляжы. Толькі грубыя гакаўніцы XVII стагоддзя ды шырокая, нібы абардажная, шаблюка, як сведчыць гравіроўка, належала камусьці са шляхціцаў-кліентаў Пане Каханку. І не раз, відаць, уздымалася ўгару пад роў тысячы горлаў: «Віват, Караль Станіслаў!»

З рэканструкцыяй у замак вярнулі і культавыя рэчы. Напрыклад, вялікі партрэт гетмана Канстанціна Астрожскага, узяты калісьці з радзівілаўскай калекцыі ў фонды Нацыянальнага мастацкага музея.

Радзівілаўскім аказалася і люстэрка ў пазалочанай раме, што доўгі час упрыгожвала Купалаўскі тэатр.



**Перад прыездам Лукашэнкі рабочыя адбойнымі малаткамі выбівалі вышчарбленую цэглу.**

## Блакітна-аранжавая Божая Маці

Яшчэ адзін нясвіжскі цуд схаваны пры самым фінальным пункце экскурсіі. Калі з арсенала не выходзіць у двор, як запрашае ўказальнік, а збочыць за сходы, трапляеш у княскую капліцу. Тут такое святло, урачыстасць і спакой, што нават тыя турысты, якія ўсю дарогу пілі квас, перастаюць гэта рабіць.

За саветамі капліцу падзялілі на тры паверхі, тут былі кабінеты дактароў, палаты, працэдурныя. Цяпер перакрыццяў няма, аднаўлены мармуровы алтар, адкрытыя роспісы сценаў. А са столі, з дзесяціметровай вышыні, глядзіць Божая Маці, напісаная ў блакітна-аранжавых танах. Дакладных выяваў роспісу столі не захавалася, кажуць супрацоўнікі, вядома было толькі, што Божая Маці была. Вырашылі зрабіць такую.

## Абед у замку

Іншымі словамі, душа прыхільніка гістарычнай даклад-насці ў палацы не адпачне. А чыя адпачне? І што прыгнала ў Нясвіж гэтых людзей, якія плацяць па 50 тысяч за тое, каб прайсціся па сучасным паркеце ды зірнуць на замкавы двор праз шклопакеты? Многія з іх не чулі пра Караля Станіслава, Юрыя Перуна, Францішку Уршулю і нават пра Барбару. Для іх «Радзівіл» — зборны назоўнік, увасабленне чагосьці магутнага, чаго на гэтай зямлі даўно няма. Ім важна пабыць тут, адчуць датычнасць да велічы, якой дыхала калісьці гэтая зямля.

Рэстаўрацыя рабілася не ў разліку на Радзівілаў, якія сюды ніколі не вернуцца. Яна разлічаная на тых, хто хоць на кароткі момант хоча адчуць сябе суродзічам Радзівілаў. І таму натуральна выглядае ў нясвіжскіх пакоях рэстаран «Страўня», дзе падаюць яечню з салам і гуляш па-радзівілаўску з карэйскай морквай.

Лагічнай падаецца і ідэя зрабіць на трэцім паверсе палаца гатэльныя віп-нумары. Яны адчыняцца ў жніўні, пакуль працэ толькі «Палац-Гатэль» у флігелі — 175-245 тысяч за ноч без сняданку. У суботу месцаў у ім няма.

З замкавых валоў відаць пляж на княжацкіх сажалках. Крык і віскат стаіць не меншы, чым падчас інсцэніроўкі Каралем Станіславам Гібралтарскай бітвы. Па вадзе, уздымаючы хвалі, ляціць катар. Над парасонамі з надпісам «Нясвіж старажытны і малады» праносяцца лятальныя апараты. Трактар «Беларусь», замаскіраваны пад паравозік, цягне вагоны з турыстамі па паркавых дарожках.

Вечар. Вахцёр выпускае апошніх турыстаў з брамы. Яны раз'язджаюцца пад позіркамі нясвіжцаў, што вядуць козаў з пашы ды ловяць карасёў у замкавых равах. Што адкладзецца ў памяці наведнікаў? Бракуе ў музеі інфармацыі, бракуе гісторый канкрэтных экспанатаў, бракуе саміх экспанатаў. Запомніцца гмах замка. Не так і мала.

**Сяргей Мікулевіч,**
**Нясвіж — Мінск**



**Бернардоні**

Гэты італьянскі архітэктар збудаваў у Нясвіжы не толькі замак, але і велічны сабор. У саборы можна палюбавацца найпрыгажэйшымі фрэскамі аўтарства Францішка Ксаверыя Дамініка Гескага.

**Як даехаць**

127 кіламетраў. Машынай па трасе М1, пасля збочыць на Гарадзею. Тады шлях праляжа па старым радзівілаўскім тракце, абсаджаным старымі хвоямі. У Нясвіж з Мінска ходзяць аўтобусы, маршруткі. Можна таксама ехаць электрычкай да Гарадзеі, а адтуль — маршруткай.



**Побач з Нясвіжам**

У дадатак да Нясвіжа ў наваколлі можна пабачыць:

радзівілаўскі тракт Нясвіж—Мір

Мірскі замак — шыкоўны рэнесансавы палац, беларуская непаўторнасць (ад Нясвіжа — 30 км)

самы стары касцёл Беларусі ў Ішкалдзі (ад Нясвіжа — 30 км)

Наваградак, старадаўняя беларуская сталіца з замкам, саборамі і музеем Адама Міцкевіча (ад Нясвіжа — каля 100 км)

радзіма Якуба Коласа: нёманскія краявіды (ад Нясвіжа — 33 км)



**Помнік сабаку**

У Нясвіжскім парку — дагэтуль даволі занядбаным — стаяць цікавыя скульптуры: пёс і анёл. На пастаменце ганчака выбіты год: 1896. На паляванні паранены мядзведзь кінуўся на князя Антонія Радзівіла, але сабака выратаваў жыццё князя. Усе дзеці ў захапленні ад гэтай скульптуры.




**«Збірайце сабе скарбы ў небе», — над кожнымі дзвярыма ў Радзівілаў было выбіта выслоўе з Бібліі.**

**Фотафакт**




Пад Слуцкам котка ўзяла на «выхаванне» двух ваверчанят.



Паводле «Інфа-Кур'ера».

# Барысаўская раёнка пра паход у Хатынь: «Незабываемый запах костра»

Артыкул пра паход у Хатынь, змешчаны на сайце газеты Барысаўскага райвыканкама «Адзінства», мае наступны загаловак — «Незабываемый запах костра».

«Маршрут быў прысвечаны 68-годдзю перамогі беларускага народа над нямецка-фашысцкімі захопнікамі, — пішацца ў газеце, — таму хлопцы наведалі мемарыяльныя комплексы «Дальва», «Хатынь», пабывалі ў Зембінскім музеі. Пераадольваючы кіламетр за кіламетрам нялёгкага шляху, навучэнцы ўспаміналі гісторыю Вялікай Айчыннай вайны. 80 кіламетраў шляху пралягалі па лясных дарогах, балотах і вузкіх сцяжынках. Але не толькі цяжкасці чакалі ўдзельнікаў паходу. Цэлы дзень хлопцы адпачывалі на возеры Макоўза ў Лагойскім раёне, яшчэ 3 дні ў зоне адпачынку «Пяскі», ужо ў Барысаўскім раёне. Вясёлыя песні пад гітару ля вогнішча, паходная кухня, начлег у намётах не пакінула ніводнага з удзельнікаў...».

Усё гэта ілюструецца фотаздымкамі мемарыяльнага комплекса «Хатынь». Цікава, што праз пяць хвілін пасля публікацыі на сайце nn.by артыкул з сайта «Адзінства» быў зняты.

АГ


АДЗІНСТВА

Главная | Блоги | О сайте | Расписание | Редакция | Фотогалерея | Реклама

**Незабываемый запах костра**

Понедельник, 23.07.2012, 14:30. Рубрика: В обществе, Новости СЕГО дня, Образование

Пеший поход первой категории сложности собрал сильных и смелых ребят, занимающихся в ГУДО «Борисовский центр туризма и краеведения детей и молодежи».

Маршрут был посвящён 68-летию победы белорусского народа над немецко-фашистскими захватчиками, поэтому ребята посетили мемориальные комплексы «Дальва»,




Сяргей Аляхновіч (злева) і Руслан Салей сышлі так рана.

**In memoriam**

# Сяргей Аляхновіч

Вядомага спартыўнага журналіста не стала ўначы 27 ліпеня. Аляхновіч памёр раптоўна, дактары яшчэ не паставілі дакладны дыягназ, які б праліў святло на тое, што ж з ім здарылася.

Сяргею было 44 гады. Ён з Маладзечна, там і сёння жыве ягоны бацька. Аляхновіч працаваў у многіх выданнях — «Свободные новости», «Прессбол», «Салідарнасць». Нейкі час узначальваў прэсслужбы футбольнага «Дынама».

Сябры адзначаюць, што Аляхновіч не ішоў на кампрамісы з сумленнем, адмовіўся ад працы ў міністэрстве. Вельмі моцна перажываў падзеі 19 снежня 2010.

Летась Сяргея падкасіла трагедыя пад Яраслаўлем, калі разбілася хакейная каманда «Лакаматыў». Сярод тых, хто быў на борце, — сябар Аляхновіча Руслан Салей.

Апошні год журналіст працаваў над кнігай пра Салея. Ён паспеў здаць яе ў друк. У канцы жніўня кніга павінна з'явіцца ў продажы.

Зміцер Панкавец

# У Дэмі Мур новы каханы

Зорка больш не перажывае з-за разводу з Эштанам Катчарам. Ягоны раман з Мілай Куніс, насуперак чаканням папарацы, не выклікае ў Дэмі ніякіх пачуццяў.

Дэмі Мур цяпер не да гэтага — яна занятая новымі стасункамі. Каханы сусветна вядомай актрысы — Марцін Хендэрсан, які паспеў засвяціцца ў мностве фільмаў, кліпаў і серыялаў.

У рамане акцёраў не застаецца сумневаў.

Пару на працягу некалькіх дзён бачылі ў кавярнях і рэстаранах Нью-Прэстана. Яны хадзілі ў паход па запаведніку і кожны вечар танчылі ў рэстаране. Мяркуючы па здымках і сведчаннях відавочцаў, 49-гадовая актрыса і 37-гадовы акцёр знаходзяцца ў самай рамантычнай стадыі сваіх адносін.

Сямён Цыбульскі





**Камертон Сяргея Ваганава**

## Смаленне Сержука, ці Як я кінуў курыць

Мяне папрасілі напісаць пра тое, як я кінуў курыць.

Чамусьці адразу ўзнікла назва, сугучная з назвай знакамітага апавядання Міхася Стральцова «Смаленне вепрука». Калі вепрука смаляць звонку, то Сяржук звыш 40 гадоў упэўнена смаліў уласныя вантробы. «Смаліць» — вельмі трапнае беларускае слова, куды больш трапнае ў адносінах да працэсу і яго наступстваў, чымсьці расійскае «курыць»...

...Упершыню я зацягнуўся дзяручым дымам гадоў у шэсць, калі ў Мінску пайшоў пасляваенны трамвай. Пры чым тут трамвай? А пры тым, што ўвесь канцавы прыпынак ля Заходняга моста, побач з якім я жыў, быў усеяны так званымі «бычкамі» са слядамі крыві з чужых дзёснаў ды жаночай памады. Сёння, калі я ўспамінаю, з якой звар'яцелай ахвотай смактала гэтае паскудства пасляваенная пацанва, я не знаходжу адказу на пытанне, чаму яна не хварэла. Гэта факт: ніхто з маіх дваровых сяброў нічым сур'ёзным не хварэў. Паміраць пачалі потым, гадоў праз дваццаць-трыццаць, яшчэ маладымі. Памёр Воўка Смірноў, вывучыўся на фізіка і памёр — ад раку... Віцька Генкін — выдаў першую кніжку, трэці інфаркт... Выпадковасць? Ці лёс?

А мне пашанцавала. Старэйшыя хлопцы зацягнулі мяне ў цёмны куток сквера, што пры чыгуначным вакзале, паклалі на спіну, загадалі заплюшчыць вочы, заціснуць нос, потым заткнулі ватай вушы, тыцнулі ў рот «бычок» і з усёй моцы пачалі ціснуць на жывот...

Пасля гэтага я закурыў толькі ў студэнцкія 19 гадоў, падчас хрушчоўскай адлігі, калі прыкметай іншага, маладзёжнага жыцця з'явіліся прыгожыя пачкі балгарскіх цыгарэт «Сонца», «Вега», потым «БТ»...

Што ні кажыце, а гісторыя смалення ў кожнага свая, фактычна гісторыя жыцця. Ці, калі заўгодна, гісторыя хваробы. Што, зрэшты, у вядомым сэнсе адно і тое ж.

І ў гэтым, па-мойму, хаваецца ўвесь цяжар адмовы ад смалення. Не ў нейкай непераадольнай залежнасці ад нікаціну, а ў тым, што страшнавата прызнаць тую сумную акалічнасць, што ўсё самае лепшае, ды і горшае, у жыцці — творчасць, каханне, радасці і пакуты, знаходкі і страты — спалучалася з ілюзіяй, якую дарыў вам, пранікаючы ў лёгкія, скрышаючы сасуды, тытунёвы дым. Вам здаецца, што нішто з таго лепшага, што было ў вашым жыцці, ужо не паўторыцца. І толькі таму, што не паўторыцца асалода ад першай цыгарэты пасля першага ранішняга кубачка кавы...

### Недасмалены пачак цыгарэт яшчэ доўга valяўся на пісьмовым стале

Абапіраючыся на ўласны досвед, пацвярджаю: не паўторыцца. Як не паўтараецца маладосць.

Затое здзейсніцца нешта новае: свабодны, нарэшце свабодны!

Многім вядомы змрочны падтэкст гэтага воклічу — эпітафіі на магіле Марціна Лютара Кінга, забітага наёмным забойцам. Але сёння, пасля амаль дзесяцігадовай свабоды ад смалення, я ўпэўнены: нават у самага заўзятага курыльшчыка, самазабойцы, па сутнасці, ёсць магчымасць зазнаць на сабе гэтае салодкае пачуццё свабоды і застацца жывым.

Па-першае: аніякага геройства. Ну, смаліў, а зараз не смалю — што ж тут такога звышнатуральнага?

Што яшчэ? Пачаў фіксаваць сітуацыі, калі хацелася пасмаліць. Пра кубачак кавы мы ўжо ўзгадвалі. Далей — тэлефонны званок, ці да мяне, ці я да каго... Потым — руль. Сеў за руль — цыгарэту ў зубы... І г.д., і г.д., і г.д...

І ў першыя ж вольныя ад смалення дні аднекуль з глыбінь падсвядомасці ўзнялося разуменне: смаленне — гэта не фізіялагічная патрэба. Смаленне — гэта штучны, прыдуманы табой рытуал.

Насамрэч — умоўны рэфлекс, амаль па Паўлаву.

Самым цяжкім, безумоўна, выпрабаваннем былі стрэсы. Каму з заўзятых курыльшчыкаў не вядома жаданне адразу засмаліць пасля чарговага нервовага ўзрушэння?!

Апошні, на дзве траціны недасмалены пачак цыгарэт яшчэ доўга валяўся на пісьмовым стале... Мне падабалася, што я практычна яго не заўважаю. Затое яснасці ў адносінах з нервовымі перагрузкамі стала больш. Бо з гэтых адносінаў знік уяўны пасрэднік. І ўся адказнасць за ўласныя рашэнні лягла на вас. І гэта быў сапраўдны, рэальны крок да ўнутранай свабоды і незалежнасці. Калі, вядома, не проста смактаць недакурак, а стварацц са смаленнем нейкую філасофію, нейкі светапогляд ды лад жыцця...

Недзе праз месяц выйшла з бронхаў апошняя брудная кропля. Амаль па Чэхаву — кропля нявольніка.

**P.S.** Так, ледзь не забыўся. Пачалося з таго, што знаёмы пратэзіст, зазірнуўшы ў рот, паднёс люстэрка і сказаў: «Бачыш вунь гэтую...? Кінеш смаліць — праз тры месяцы знікне. Працягнеш — сто працэнтаў...»

Сам ён кінуў смаліць адразу пасля таго эпізоду.

# «Кампанія не велька, але бардзо пожондна»

**Лукашэнку не пусцілі** на Алімпіяду.

Арганізатары Гульняў адмовілі лідару краіны ў акрэдытацыі, хаця Лукашэнка аднačасова з'яўляецца і прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта.

Кіраўнік міжнароднага алімпійскага камітэта Жак Роге на прэс-канферэнцыі перад адкрыццём Алімпіяды сказаў: «Мы паважаем рашэнне Еўракамісіі ўключыць Лукашэнку ў чорны спіс Еўрасаюза».

У брытанскім пасольстве пацвердзілі, што ў акрэдытацыі было адмоўлена праз парушэнні правоў чалавека ў краіне. «Гэтая забарона застаецца ў сіле і будзе дзейнічаць падчас Алімпійскіх гульняў. Рашэнне па гэтым пытанні не будзе зменена», — сказалі ў амбасадзе.

Галоўны рэдактар «Прессбола» Уладзімір Беражкоў лічыць, што рашэнне няправільнае. «Нельга змешваць спорт і палітыку», — сказаў Беражкоў. Гэтыя словы выклікалі абурэнне інтэрнаўтаў: яшчэ пытанне — хто змешвае. Сам Лукашэнка ці ўлады ЕС?

Лукашэнка ўжо двойчы наведваў Алімпіяды, але абодва разы ў Азіі. У 1998 у японскім Нагана, а ў 2008 — у Пекіне. Удалося кіраўніку Беларусі нядаўна наведаць і фінал Еўра ў Кіеве. А вось з Алімпіядай атрымаўся пракол. Сам Лукашэнка і афіцыйныя СМІ ніяк не каментуюць гэтага рашэння.

Агулам на адкрыццё Алімпіяды ў Лондане былі запрошаныя лідары ста дзяржаваў. Не трапілі ў спіс запрошаных толькі некаторыя кіраўнікі краін — Зімбабвэ (Мугабэ), КНДР (Кім Чэн Ын), Іран (Ахмадзінежад), Судан (аль-Башыр). Як кажуць палякі, «Кампанія не велька, але бардзо пожондна».

**Зміцер Панкавец**

# Брытанцы далі чаду

На адкрыцці Алімпіяды запомніліся чэхі і **Джэймс Бонд.**

Цырымонія адкрыцця Алімпіяды стала адной з самых маляўнічых у гісторыі. За пастаноўку шоу адказваў вядомы кінарэжысёр Дэні Бойл, які даў урачыстасці назву «Выспа-цуд».

У аснову сцэнара быў пакладзены аповед аб прамысловым перавароце ў Англіі ў XVIII ст., які радыкальна змяніў патрыярхальна-пастаральнае жыццё добрай старой Англіі. На Алімпійскім стадыёне выраслі самыя сапраўдныя каміны, якія пачалі дыміць.



Чэхі выйшлі на адкрыццё ў гумовых ботах.

Потым былі паказаныя падзеі XIX ст., эміграцыя, пасля згадалі пра загінулых у Першай і Другой сусветных войнах. Гледачы пабачылі і Джэймса Бонда, і каралеву Лізавету: Бонд (ці Тувія Бельскі — актор Дэніэл Крэйг) зайшоў у Букінгемскі палац, забраў самую сапраўдную каралеву і правёў яе ў верталёт. Каралеўскія сабачкі міла памахалі лапкамі. Потым Крэйг (Бонд) і каралева скочылі з верталёта над стадыёнам на парашутах. Вядома, ролю каралевы ў гэты момант выканала каскадзёрка. Сама ж Лізавета ўрачыста выйшла разам з мужам, прынцам Філіпам, герцагам Эдынбургскім, з каралеўскай ложы.

Далей была дзіцячая частка — з Гары Потэрам, Мэры Попінс і Пітэрам Пэнам, чытаннем ад Джоан Роўлінг і цудоўным перфомансам ад Містэра Біна — Роўэна Аткінсана, які ў сваім фірмовым стылі выканаў партыю сінтэзатара ў знакамітай алімпійскай мелодыі разам з Лонданскім сімфанічным аркестрам.

Потым пачаўся парад краін. Беларусы падаліся нейкімі заціснутымі, а іх касцюмы глядзеліся залішне стракатымі. Вёў беларускую дэлегацыю Максім Мірны, які відавочна хваляваўся, а сцяг, які нёс тэнісіст, згарнуўся і ніяк не хацеў лунаць.

Уразіла зборная Чэхіі — яе спартсмены з'явіліся на стадыёне ў гумовых ботах. Здзівіла і адна з вядучых, Інга Хрушчова. Яна мала


**За зборную Саудаўскай Аравіі ўпершыню выступаюць жанчыны.**

таго, што не магла сказаць нічога пазнавальнага, дык яшчэ і бязбожна блытала назвы маленькіх краін. Грэнадыны назвала Грэнландыяй!

У сталіцу Вялікабрытаніі ў складзе зборных Брунея, Катара і Саудаўскай Аравіі ўпершыню паехалі спартоўкі-жанчыны. Ну, а ў камандах Бахрэйна і Катара жанчыны  нават сталі сцяганосцамі.

Гледачы цёпла сустракалі апладысментамі кожную зборную, якая выходзіла на дарожку арэны. Але калі на ўсеагульны агляд выйшла каманда Ірана, воплескі заціхлі.

Ну і, нарэшце, прыйшоў час для самага ўрачыстага моманту любых цырымоній адкрыцця Гульняў — запальвання алімпійскага агню. Яго засвяцілі сем маладых алімпійцаў. Гэта было надзвычайнае відовішча.

**Алег Гардзіенка**

# Хто вінаваты ў правале Новікавай?

Суддзі **ці трэнеры**?

Драмай скончыліся спаборніцтвы ў цяжкай атлетыцы сярод жанчын у вагавай катэгорыі да 58 кілаграмаў. Лічылася, што медаль у кішэні Настассі Новікавай, аднак у выніку — сёмае месца.

Цяпер і спартсменка, і трэнеры кажуць, што суддзі былі перадузятымі, але сітуацыю ўжо не зменіш. Суддзі двойчы не залічвалі спробы ўраджэнкі Жодзіна ў штуршку — пры тым, што Новікава змагла ўзняць штангу над галавой. Кажуць, што не ўтрымлівала цвёрда. Так, не паспрачаешся, але пры гэтым арбітры нярэдка заплюшчвалі вочы на шурпатасці ў выступах суперніц.

Калі б спроба на 133 кг была залічаная, то Новікава займала б у выніку трэцяе месца. Цяпер федэрацыя збіраецца падаваць скаргі, але рабіць тое пастфактум досыць бессэнсоўна. Трэ было адразу. Як было, напрыклад, зроблена 4 гады таму ў сітуацыі з Андрэем Рыбаковым. У выніку спартсмену далі дадатковую спробу, якую магілёвец бліскуча рэалізаваў.

Ёсць прыклад і з гэтай Алімпіяды. Японцы своечасова падалі апеляцыю на вынікі спаборніцтваў у гімнастыцы, і назіральная рада іх сапраўды апраўдала. У выніку Японія атрымала «срэбра».

Беларусі загадана заваяваць на Алімпіядзе 25 медалёў. Пасля чатырох дзён спаборніцтваў няма ніводнага. На гэты момант узнагароды маюць Літва, Польшча, Славакія, Венгрыя, Украіна, Малдова, Азербайджан, Узбекістан.

**ЗП**



## Уразіла!



### 16-гадовая чэмпіёнка

Плыўчыха Е Шывэнь стала пераможцай Алімпіяды ў плаванні на дыстанцыі 400 метраў комплексным стылем. На Азіяцкіх гульнях Е Шывэнь выйгравала ў яшчэ больш маладым узросце — 14 гадоў.

## Сцісла

### Брэсан забіў Бразіліі

Вядома, хлопчык з Тубарана Рэнан Брэсан у дзяцінстве марыў гуляць за зборную Бразіліі. Але лёс склаўся так, што давялося згуляць супраць роднай краіны. Ён забіў гол у гульні Беларусі з чараўнікамі мяча. Праўда, гэтага для перамогі новай радзімы было мала — пройгрыш 1:3.

### Калі б Карэі былі разам

На іх рахунку б толькі ў першыя дні было 10 узнагарод. І яны б ішлі трэція следам за Кітаем і ЗША. Паўднёвыя браты добра выступаюць у дзюдо, стральбе з лука, а паўночныя — у цяжкай атлетыцы.

### Самы ўзроставы — 70-гадовы

Найстарэйшым удзельнікам Гульняў стаў японскі вершнік Хіросі Хаоцу. Яму 70 гадоў.

### Выступаюць і цяжарныя

Малайская атлетка Нур Сарані Махамед Таібі выступіць на Гульнях на дзявятым месяцы цяжарнасці. Яна бярэ ўдзел у спаборніцтвах стралкоў. Праўда, на высокія вынікі не прэтэндуе.

**ЗП**

# Гісторыя кахання:

**Ірына Марачкіна** не дажыла паўтара месяца да залатога вяселля.



1989. Падарожжа па Мядзельшчыне.

Іх часта можна было бачыць на вуліцах Мінска. Двое ўжо не маладых людзей гулялі, узяўшыся пад рукі. Мастак Аляксей Марачкін і ягоная жонка Ірына. З красавіка была апошняя такая прагулка, па вяртанні дадому жанчыне стала кепска — сэрца. Яна памерла літаральна на руках мужа. 24 мая пара збіралася адзначыць залатое вяселле — 50 гадоў сумеснага жыцця.

### То каханне было…

«Я клянуся, што гэта была любоў.
Не раскажаш пра гэта,
няма болей слоў…
І, што прывід, хадзіў ён
па цёмнай начы,
І было аніяк яму ўжо памагчы.
Клянуся, што гэта была любоў.
Паўтараю я зноўку,
Паўтараю я зноў —
То каханне было…
Была гэта любоў».

Аляксей Марачкін нядаўна скончыў пераклад гэтага верша Булата Акуджавы, прысвяціўшы яго жонцы. «Так і паміж намі было», — кажа ён.

Як часта бывае, пазнаёміцца дапамог збег абставінаў. Аляксей па сканчэнні школы паступаў у Мінскую мастацкую вучэльню, але не прайшоў па конкурсе. А ў той самы год у Віцебску адкрываўся мастацка-графічны факультэт пры педагагічным інстытуце. Многіх, хто недабраў некалькі балаў у сталіцы, перакінулі ў горад над Дзвіной. Туды ж паступіла і Ірына — на біялагічны факультэт.

Аднак знаёмства адбылося не адразу. Перад гэтым малады мастак адпакутаваў праз іншую дзяўчыну. «Я на першым курсе быў закаханы ў Люсю Смольскую — ці то польку, ці то татарку. Прыгожая вельмі. Я яе кахаў, яна мяне. Але Люся яшчэ ў школе дамовілася з хлопцам-аднакласнікам, што будуць вечна жыць разам. І з'ехалі яны ў Маскву. І так мне горка было, так крыўдна. У нейкі вечар мой сябра кажа: твая Люся ў лепакоі чытае нешта. Быць таго не можа. Дакладна! Падобная адзін у адзін да Люсі. Гляджу, а гэта Ірына, пазнаёміліся. Хадзілі на танцы», — расказвае сп. Аляксей.

### Адзін зяць удалы, другі — мастак

У 1962 яны пабраліся шлюбам. «Яна з незвычайнай сям'і з Шаркаўшчынскага раёна, Заходняя Беларусь, ці, як кажуць мясцовыя, Польшч. Яе вёска Барсукі на глінянай глебе. Мясцовы граф Плятэр даваў магчымасць мужыкам мець невялікі бізнэс. І бацька маёй Ірыны, Сяргей Грыддзюшка, меў таксама маленькую цагельню, быў дробным фабрыкантам. Ён выхаванец вядомага Івана Лютынскага, музыкі, які вучыў граць на гармоніку. Яна вырасла сярод музыкі, весялосці — наколькі тады было весела, бо была і вайна...» Пытаюся, а ці прынялі бацькі выбар малодшай дачкі. «А куды ім было дзявацца? Хаця бацька казаў: адзін зяць быў удалым, а другі — мастак. Удалы — гэта Франц, камуніст», — смяецца.

### «Часта прыязджала да мяне Ірынка»

Аляксей скончыў вучэльню, быў размеркаваны ў вёску Рубель на Століншчыне, наперадзе маячыла служба ў войску. Забралі ў танкісты, хоць і росту немалога. «У танкісты ўзялі, бо ішоў у армію з эцюднікам. Запыталіся: художнік? Кажу, што так. Художнікі нам трэба, адказваюць. Ірына прыязджала да мяне ў Печы — такая маладая, хударлявая, прыгожая», — з асалодай узгадвае мастак.



1968. Жодзіна. Аляксей, Ірына і Ігар Марачкіны.




1964. Ірына прыязджала да Аляксея ў войска.

У сям'і захаваўся здымак з вывявай імпазантнага кавалера у вайсковай форме і ягонай прыгожай абранніцы. Яму — 24, ёй — 23. На здымку подпіс: «Часта прыязджала да мяне Ірынка, жоначка мая».

На той час у іх ужо нарадзіўся сын — Ігар (сёння мастак і выкладчык). Сям'я жыла ў Жодзіне. Аляксей выкладаў у школе маляванне, Ірына — біялогію.

Першае мастакоўскае прызнанне да Марачкіна прыйшло дзякуючы Ірыне. На маладзёжнай выставе ў Маскве прагрымеў партрэт Ірынчынай бабкі Марылі — першы твор, які набыў мастацкі музей. Рэпрадукцыя той карціны па сённяшні дзень вісіць у майстэрні мастака.

### Драздовіч

Аляксей Марачкін быў не першым творцам, што палюбіў вёску Барсукі, дзе нарадзілася ягоная жонка. «Ірынчыны суседзі казалі, што тут, па гэтых мясцінах, у вайну і да вайны хадзіў мастак Язэп Драздовіч. Ён маляваў дываны, карціны. У людзей некаторыя з іх яшчэ заставаліся. Знайшоў адзін твор, дык гаспадыня казала, што палякі недалюблівалі гэты малюнак, немцы — смяяліся, а саветы загадалі зняць. На ім худы мужык цягаецца з тоўстым панам. Быў узрадаваны, калі атрымаў гэты твор. Прадаў яго потым, каб паставіць помнік на магіле дзядзькі Язэпа. Праз Ірыну Драздовіч увайшоў у маё жыццё».

### «Дзе я — там яна»

Калі сям'я пераехала з Жодзіна ў Мінск, то Ірына ўладкавалася на працу ў Рэспубліканскі метадычны цэнтр пры Міністэрстве асветы. Яна выкладала біялогію школьнікам па тэлевізары. «Вядома ж, што па-беларуску. У мяне цэлы архіў яе артыкулаў, выступленняў у «Настаўніцкай газеце». Яна мяне падтрымала ў беларушчыне. Мы дома размаўлялі толькі па-беларуску, і Ігар размаўляе, і ўнукі. На тэлебачанні яна адпрацавала гадоў пяць». Не выпадае казаць, што Ірына заставалася ў цені мужа, яна была актыўнай жанчынай, рэалізоўвала свае мары.

# Іржы і Лёкса


Сп. Аляксей чытае дзённікі жонкі.


1996. Чарнобыльскі шлях. Аляксею падбілі вока.


Партрэт бабкі Марылі, што прынёс Марачкіну першы поспех.

Тым не менш, Аляксей кажа, што менавіта той перыяд значна падарваў здароўе жонкі, хоць яно ніколі моцным і не было. «Дактары казалі, што з сэрцам трэба быць больш асцярожнай. Калі яна працавала ў Цэнтры, то нават завяла папку: «Мае пакуты». Пісала там, як цяжка было прабівацца з мовай на тэлебачанне. Хаця тады быў Генадзь Бураўкін, які даваў «зялёнае святло». З бюракратамі Мінасветы было цяжка. Яна пісала метадычкі пабеларуску, дык яе за гэта ціснулі».

Спадар Аляксей кажа, што жонка была яму падтрымкай ва ўсім. «Дзе я — там яна. Паўсюль была са мной. Я смяюся, што яе «рэвалюцыйная» дзейнасць пачалася, калі мы распаўсюджвалі нашы ўлёткі ад імя Мацея Бурачка».

Гэты верш быў напісаны на наступны дзень пасля смерці.

***

Не мінай на шляху
ты гару крутую,
І другім ты не замінай.
Прыйдзе час — я цябе ўратую,
Дзе б ні быў, я цябе пачую,
Жыць па-новаму пачынай.

Я не так ад цябе
далёка,
Цёмны дух не адолее нас.
Узнялася высока,
высока,
Поле белае, як кінуць
вокам.
Мы сустрэнемся —
прыйдзе шчэ час.

*4 красавіка, 2012.*

### «Калі яна са мной, тады мне малюецца і пішацца»

У перабудову Ірына перайшла на працу ў Дом літаратара у Бюро прапаганды беларускай літаратуры. Ездзіла з пісьменнікамі. На яе плячах ляжала арганізацыя ўсіх вечарынаў, канцэртаў. «За Сыса яна перажывала, сэрца ён ёй рваў. Казала ўвесь час: «Толік, супакойся». Але мы ведалі, што гэта вялікі талент», — кажа Аляксей.

«Як толькі Фронт арганізаваўся, то яна была там, сакратаркай, уваходзіла ў рэвізійную камісію. Не прапускала мітынгаў. Яна была сціплай, рэдка гаварыла публічна, а вось за сталом усе заслухоўваліся яе прамовамі. Стварыла мне картатэку. Куды запісвала ўсе карціны, якія я некалі маляваў. Часам прыдумвала назвы твораў», — расказвае сп. Аляксей.

І не трэба забывацца, што на плячах Ірыны ляжала гаспадарка. «Канечне, яна ўсё рабіла. Я маляваў. Мы жылі ў майстэрні, тут ёсць пакой адмысловы. Былі нараканні на гэта. Майстэрня — мой стыль жыцця. І я хацеў, каб мая «палова» была са мной, тады мне малюецца і пішацца».

### «Лёкса, мой няўрымслівы ўтрапёнік»

У хаце яна называла мужа Лёксам, як некалі ў дзяцінстве. Ён яе — Іржы. Пяшчоту ў адносінах удалося захаваць праз шмат гадоў супольнага жыцця. Вось, напрыклад, які запіс пакінула жанчына ў дзённіку ад 18.11.2003: «Лёкса, мой няўрымслівы ўтрапёнік, ладзіць чарговую выставу. Узваліў такую вялікую нагрузку. Павёз творы ў Оршу, дзе заўтра павінна адкрыцца выстава.

Лёкса, спакойнай табе ночы! Моцы і задавальнення ад задуманага. У цябе ўсё атрымаецца. Шкада, што не магу быць у гэты час з табой. А можа, заўтра дасць мне Бог сілаў, і я рвану на электрычцы ў Оршу. Фантастыка!»

У апошнія гады даймалі хваробы, ёй зрабілі аперацыю на сэрцы клапан. Было цяжка. Аддана, колькі было сілаў, працавала ў Таварыстве беларускай мовы.

Цяпер Марачкін рыхтуе да выдання кнігу вершаў, адзін з раздзелаў якой, «Пад зоркай Ірыны», прысвеціць жонцы.

**Зміцер Панкавец**


Здымак зроблены ў майстэрні Аляксея Марачкіна 18 лютага 2012.

# «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі з Беларуссю»: Еўропа дапаможа?

Еўрасаюз не пакідае спробаў «разварушыць» Беларусь.



**Штэфан Фюле: Еўропа сочыць за сітуацыяй у Беларусі з расчараваннем.**

29 сакавіка 2012 еўракамісар па пытаннях пашырэння і добрасуседства Штэфан Фюле прэзентаваў новую праграму ЕС «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі з Беларуссю», што будзе ісці паралельна з «Усходнім партнёрствам».

Плануецца, што «Дыялог» дапаможа ЕС зразумець патрэбы Беларусі ў рэформах і стварыць своеасаблівую «карту» зменаў, прыцягнуўшы найлепшы еўрапейскі досвед рэформаў. Да ўдзелу ў працоўных групах па чатырох напрамках мадэрнізацыі былі запрошаныя як прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці, так і ўлады.

І тут Брусэль наткнуўся на чаканы, але непрыемны адказ Мінска: улады крайне негатыўна паставіліся да прапанаванай ім магчымасці кантакту і наадрэз ад яе адмовіліся, матывуючы гэта тым, што праграма была распрацавана без удзелу афіцыйных прадстаўнікоў Беларусі і папросту навязваецца Брусэлем.

Але ці будзе «Дыялог аб мадэрнізацыі», што мог бы «залатаць дзіркі» «Усходняга партнёрства», хоць крыху эфектыўным без размоваў з уладамі? І ці ўвогуле здолее «Дыялог» пакінуць рамкі звычайнай дыскусіі і перарасці ў рэальныя дзеянні?

Штэфан Фюле падчас сустрэчы з беларускімі журналістамі ў Брусэлі заявіў, што Еўропа «сочыць за тым, што цяпер адбываецца з Беларуссю, з вялікім расчараваннем». І ўсё ж «мы не паставілі крыж на Беларусі», — запэўніў Фюле, у той жа час падкрэсліваючы: ёсць «стомленасць ад таго, што, нягледзячы на нашыя намаганні, развіццё Беларусі ідзе не ў кірунку выканання дэмакратычных прынцыпаў».

Стомленасць гэтая, хоць і неахвотна, але ўсё ж пацвярджаецца Еўрапейскімі палітычнымі коламі: перад сустрэчай з Фюле прадстаўнікі Еўрапарламента расказалі пра «Беларускі парадокс»: Беларусь — гэта тая краіна, па якой ідуць самыя актыўныя дэбаты, прымаецца найбольш рэзалюцый, але ўсе яны ў выніку аказваюцца найменш эфектыўнымі.

Еўропа ўсё больш і больш аддаляецца ад беларускага пытання. Блок-27 зараз амаль цалкам заняты сваімі ўнутрыпалітычнымі справамі: барацьбой з крызісам еўразоны і спробамі разабрацца з краінамі-членамі, якія не выконваюць абавязацельстваў у межах ЕС.

Эксперт брусэльскай філіі Інстытута Карнэгі па палітыцы ЕС і Расіі ў дачыненні Беларусі, Украіны і Малдовы Вольга Шуміла-Тапіёла заўважыла, што ў сённяшняй Еўропе існуе вельмі мала краін, якія падтрымліваюць далейшае супрацоўніцтва з Беларуссю. Існуе два блокі: тыя, хто проста чакае сыходу Лукашэнкі, і тыя, хто выступае за больш жорсткія санкцыі.

«І тыя, хто з недаверам глядзеў на Беларусь (галандцы, бельгійцы, іспанцы, італьянцы), і тыя, хто з аптымізмам (шведы, якія разам з палякамі сталі «лакаматывам» «Усходняга партнёрства»), усё больш і больш схіляюцца да думкі, што яны нічога не змогуць зрабіць з нашым рэгіёнам. Асабліва з Беларуссю, дзе грамадства так доўга мірылася з тым сацыяльным кантрактам, што прапанаваў Лукашэнка», — кажа эксперта.

Мабыць, калі Беларусь усё ж пакажа ЕС, што яна насамрэч гатова да рэформаў, то «Дыялог» зможа вырвацца з фармату «прыйшлі, пагутарылі, разышліся».

**Кірыла Хілько, Брусэль — Мінск**

# Беларуская глыбіня. **Тайс**

Піша **Павел Севярынец**.

*...Так, Госпадзе! Ты ведаеш, што я люблю Цябе. Ісус кажа яму: пасві авечак маіх.*
*Евангелле паводле Яна 21:15*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Адказ сталінскаму калгасу тут, у Купліне, знянацку ўсплывае ў колішняй савецкай святыні — сярод казармаў вайсковага гарадка ды на полі, зрытым бункерамі і акопамі па абодва бакі колішняга КПП. Заязджаеш праз разбураную браму з пустым месцам ад чырвонай пентаграмы — і зямля пачынае калыхацца пяшчотна-шэрымі пухнатымі чародамі авечак. Мірнае бляянне. Эпічна. Па-біблейску.

В'етнамскія свінні неўразумела глядзяць на мінакоў праз дрот электрапастуха і раптам, з рохканнем важака, усім табарам кідаюцца наўцёкі ды рассыпаюцца па пагорках. Гняды конь паважна падыходзіць да агароджы, дабрадушна чмыхае табе ў твар і ўсёй пысай шукае, ці не хаваеш ты ад яго чагосьці смачненькага.

Усё дыхае цеплынёй і свойскасцю, усё па-хатняму дагледжана... і проста прыгожа.

Хто гаспадар?

А, фермер тут адзін. Беларус? Ага. Нярускі.

**Беларусь — яна і ў «Афрыцы» Беларусь »**

Бачыў у Беларусі ўсялякіх фермераў: полацкага бедалагу, які ледзь ліпеў на дванаццаці гектарах пяску (адмыслова выдзеленых яму сельсаветам, каб ведаў сваё месца); аматара «Анастасіі» ды жыцця ў гармоніі з прыродай з Шаркаўшчыны, які туліўся з малочным статкам на паўсотні гектарах; пляменніка палаткавай дэпутаткі з-пад Нясвіжа, якому цётка «прабівала» дапамогу з навакольных калгасаў і які, вядома, сцвярджаў, што «фермерства ў нас падтрымліваецца»... Але з гаспадаром такога кшталту, самастойным і паспяховым сямейным вернікам (на якіх калісьці і трымалася Беларусь) — упершыню давялося пазнаёміцца менавіта тут.

І гэта — афрыканец Тайс.

Матайс Уолес Тэрон, якога ўсё наваколле ведае як Тайса, — бур, родам з Намібіі. У 1994 інжынер-хімік прыняў Хрыста і паехаў з місіяй «у Расію», былы СССР, дзе толькі вось рухнуў камунізм, — а трапіў сюды, у колішні вайсковы гарадок у Беларусі.

Сустрэўся з братамі-евангелістамі з Кобрына і заняўся справай продкаў — белых афрыканскіх фермераў: пачаў разводзіць авечак.

Тайс высокі, крыху смуглы, вусаты і добразычлівы. Вельмі просты. Бярэ на працу «хімікаў» ды мясцовых рабочых. Часам, запрошаны на набажэнствы да пратэстантаў у навакольных гарадках ды мястэчках, сведчыць пра сваё жыццё ў Богу.

Пасля таго, як на найвышэйшай нарадзе ў Мінску было пастаноўлена займацца авечкагадоўляй, да мяне пасыпаліся званкі. Падкажы, там у вас побач ёсць такі... Беларускі народ, ад менеджэраў да ветэрынараў, azaдачаны тым, што следам за «А» цяпер хорам загадана казаць «Бэ-э-э», палез у сеціва, а там на запыт «авечкі Беларусь» Гугл, вядома, выдаў дзіва нумар адзін — ферма Тайса з Пружанскага раёна, які збывае бараніну на Камароўку.

Жонка Тайса Антанэт, дыпламаваны псіхолаг, трымае кавярні: дзве «Афрыкі» ў цэнтры Пружанаў — цяпер улюбёнае месца адпачынку моладзі і сем'яў. Меню — без алкаголю. У нас не паляць. У нядзелі зачынена: сёмы дзень — Госпаду. Светла: акрамя шкла ды пластыку — дрэва і саломка. Агромністы выкапнёвы пазванок з кранальным папярэджаннем: «Косць мамантa. Рукамі не чапаць». Сапраўдныя страўсавыя яйкі ў плеценым кошыку. Іголкі дзікабраза. Савана. Сафары. Чорныя чалавечкі, што танчаць на шкле, свяцільніках ды выцінанках... Чыста і ўтульна. Дзяўчынапрадаўшчыца прыязна адгукаецца і пераходзіць на беларускую мову.

Госпадзе... Што тут скажаш?.. Хрысціянства — яно і ў Афрыцы хрысціянства. Беларусь — яна і ў «Афрыцы» Беларусь!

Дзеці Тайса і Антанэт, хлопчыкі шаснаццаці і чатырнаццаці гадоў ды дзяўчынка адзінаццаці, дапамагаюць пасвіць і ўпраўляцца па гаспадарцы. Жвавыя, адкрытыя, з прыгожымі карымі вачыма, размаўляюць на роднай мове афрыкаанс, парасійску і па-ангельску.

Тайс не хоча аддаваць дзяцей у школу, дзе вучаць, што чалавек пайшоў не ад Бога, а ад малпы. Навучанне — прыватнае.

Тайс. Жонка. Дзеці. Авечкі. Проста любуешся. Біблейскі Давід да таго як стаць вайскаводцам і царом, пасвіў авечак — жывёлаў надзвычай чыстых: нават трапіўшы ў бруд, яны старанна мыюцца. Урэшце, Сам Ісус у Евангеллі — і ахвярнае і пакорлівае Ягня, і добры Пастыр, што пакладае жыццё за авечак...

Тайсы вельмі простыя. Іх адразу адрозніш — і найперш не па мове ці колеру скуры. Хаця становішча з «відам на жыхарства» надзвычай хісткае — у іх няма страху. Упэўненыя. Глядзяць у вочы — ясна, цікаўна. Працуюць. У самы ўтульны дамашні час моляцца і чытаюць Біблію.

Так беларусы рабілі і ў Полацкім княстве, і ў ВКЛ, і ў Рэчы Паспалітай, і пад Расіяй. Большасць беларускіх герояў Новага часу выйшла з сем'яў вернікаў, якія гаспадарылі на зямлі. А цяпер?..

Няўжо мы забыліся?..

Няўжо ў нас развялося столькі ваўкоў, што Госпад пасылае малы авечы статак нам на сорам?

Няўжо на беларускай зямлі расплодзілася столькі Каінаў, што ажно з Паўднёвай Афрыкі спатрэбіўся братпастух Авель?..

Пакуль беларусы, сцяўшы зубы, надсілу дратуюць бедную зямлю ў калгасах дзеля жабрацкага заробку, фермербур паволі пашыраецца, мае плён і дае працу іншым.

І калі разумееш, што просты і ўсмешлівы Тайс нікога не збіраецца вучыць жыць, — усё робіцца ясна.

Беларусы, мілыя!

Ну калі да нас не даходзіць, ну хоць з цікаўнасці, хоць дзеля афрыканскай экзотыкі — паглядзіце... Чалавек з краю свету выкліканы сюды засведчыць нам, загрузлым у сваіх балотах, усёведным і хітрамудрым — Той, Хто пасвіў нас як народ тысячу гадоў, аднойчы збярэ ўсіх, аддзеліць адных ад другіх, паставіць авечак па правую руку, а казлоў па левую, аддасць кожнаму па справах ягоных, і мы, хто з жахам, а хто з захапленнем, нарэшце пазнаем нашага беларускага Праведніка і нашага беларускага Пастыра.

*Куплін*

# Гісторыя Беларусі. Частка XXV.
# Хто пабудаваў Сафію Полацкую?

Піша Алег Дзярновіч.




У лютым 1067 князь Усяслаў вяртаецца ў Полацк з захопленага і абрабаванага ім Ноўгарада. Ён вязе з сабой званы наўгародскай Сафіі — для Сафіі Полацкай. Але калі ж была ўзведзеная гэтая святыня — першы мураваны хрысціянскі храм у Беларусі? А найперш — чаму Сафія?

### Сафійская прастора

Сафія, Прамудрасць Божая, — адна з самых складаных абстрактных катэгорый хрысціянскага багаслоўя. Паводле апостала Паўла, Сафіі сімвалічна адпавядае выява Хрыста — увасобленага Слова Божага. Толькі пазней пашырылася атаясамленне Сафіі з Божай Маці. Сафійскія саборы нібыта пазначалі прыналежнасць да «візантыйскай садружнасці нацый». У інтэр'ерах Сафіі адлюстроўвалася сярэднявечная мадэль Сусвету, а ў вонкавым выглядзе — вобраз Места Божага, Нябеснага Ерусаліма.

Праабразам усходнееўрапейскіх Сафій стала Сафія Канстанцінопальская, узведзеная ў 324—337 імператарам Канстанцінам, які абвясціў хрысціянства дзяржаўнай рэлігіяй абодвух Рымаў.

Не ўсё проста з датай пабудовы кіеўскай Сафіі — першай ва Усходняй Еўропе. «Аповесць мінулых часоў» дае нам дату 1037. Разам з тым, у саборы на фрэсках былі знойдзеныя графіці, надрапаныя не надта паслухмянымі прыхаджанамі. Яны датуюцца 1018/21, 1019, 1022... Дый у хроніцы нямецкага біскупа Тытмара Мерзенбургскага Сафія прыгадваецца пад 1018. Такім чынам, Кіеўская Сафія магла быць закладзенай яшчэ Уладзімірам, а асвячанай ужо пры Яраславе.

Храналагічная яснасць ёсць толькі адносна наўгародскай Сафіі — у 1046 кіеўскі князь Яраслаў Мудры і княгіня Інгегерда выправіліся ў Ноўгарад да свайго сына Уладзіміра на цырымонію закладкі Сафійскага сабора. У Ноўгарадзе Сафію збудавалі на месцы Уладычнага двара прыкладна да 1050. З усіх трох Сафій наўгародская найбольш захавала аснову XI ст.

Полацк разам з Кіевам і Ноўгарадам праз пабудову сімвалічнага сабора таксама ўвайшоў у «сафійскую прастору». Пра час пабудовы Полацкай Сафіі не паведамляе ніводная пісьмовая крыніца. Мы маем толькі вобразную згадку ў «Слове пра паход Ігаравы», дзе апавядаецца пра імклівыя перамяшчэнні Усяслава:

Таму ў Полацку рана званы
Пазванілі ў Сафеі святой
Да завутрані, — ён жа праз сны
Ужо ў Кіеве звон чуе той.

Але як гістарычную крыніцу, «Слова пра паход Ігаравы» не варта ўспрымаць.

Першую ж летапісную згадку Полацкай Сафіі мы сустракаем у «Спісе гарадоў рускіх дальних і бліжніх» —летапісным рэестры канца XIV — пачатку XV ст.: «Полацк на Дзвіне і на Палаце драўляны. А святая Сафія каменная з сямю вярхамі».

У беларускіх падручніках падаецца як неаспрэчны факт тое, што Полацкая Сафія была ўзведзеная за часамі Усяслава Брачыславіча, недзе паміж 1044 і 1066. І калі храм сапраўды ставілі пры маладым Усяславе, дык адкуль у яго ўзяліся такія амбіцыі, сродкі, імпэт? Вядома, разважанні не могуць быць аргументам. Археолагі сцвярджаюць, што падземнымі канструкцыямі Полацкая Сафія моцна нагадвае кіеўскія цэрквы першай паловы — сярэдзіны XI ст. Гэта значыць, Сафію маглі пачаць будаваць пры князі Брачыславе Ізяславічу — пасля 1021 г. У той час Полацкае княства атрымала выхад да Балтыкі ды далучыла Віцебск. Яно знаходзілася на вяршыні магутнасці.

Даследчык полацкіх старажытнасцяў Дэніс Дук праводзіць паралелі паміж македонскім царом Філіпам, бацькам Аляксандра Македонскага, і полацкім князем Брачыславам, бацькам Усяслава. Асновы эканамічнага і палітычнага росквіту абедзвюх дзяржаў былі закладзеныя бацькамі напярэдадні вялікіх здзяйсненняў іх сыноў.

### Помста Яраславічаў

Імклівы паход Усяслава на Ноўгарад не мог застацца без рэакцыі паўднёвярускіх князёў. Утварылася антыполацкая кааліцыя, у склад якой увайшлі тры родныя браты: кіеўскі князь Ізяслаў Яраславіч, чарнігаўскі Святаслаў Яраславіч, пераяслаўскі Усевалад Яраславіч — стрыечныя дзядзькі Усяслава. У лютым 1067, калі дарогі яшчэ не разлезліся ад веснавой халепы, войска Яраславічаў рушыла на Полацк. Першым на іх шляху трапіўся Менск, жыхары якога замкнуліся ў горадзе, чакаючы дапамогі ад Усяслава. Праўдападобна, полацкі князь не чакаў гэтага хуткага нападу і не змог дапамагчы сваім паўднёвым падданым. Паводле ж летапісу, «тыя ж браты ўзялі Менеск, і пасеклі мужчын, а жанчын і дзяцей пабралі ў палон, і пайшлі да Нямігі, і Усяслаў пайшоў насустрач».

Войскі сышліся на берагах ракі Нямігі і, паводле Васіля Тацішчава, сем дзён прастаялі адно супраць другога ў глыбокім снезе. Нарэшце, 3 сакавіка Усяслаў рушыў палкі супраць Яраславічаў. Летапісец асобна адзначае, што «была сеча злая, і многія загінулі». Усяслаў пацярпеў паразу і ўцёк. Імклівае адступленне палачанаў мы можам інтэрпрэтаваць і як зрыў планаў па акружэнні полацкага войска ды ўзяцці Усяслава ў палон.

Падзеі той бітвы знайшлі адлюстраванне і на старонках «Слова пра паход Ігаравы»: «На Нямізе снапы сцелюць головамі, малоцяць цапамі харалужнымі, на таку жыццё кладуць, веюць душу ад цела. Нямігі крывавыя берагі не дабром засеяны, засеяны касцьмі рускіх сыноў».

Пра колькасць войскаў у бітве казаць нешта пэўнае цяжка. Пецярбургскі даследчык Ігар Фраянаў даводзіць, што толькі войска Святаслава ў 1068 складалася з трох тысяч вояроў. Паводле падлікаў беларускага гісторыка Георгія Ласкавага, на пачатку XII ст. Полацкае княства магло выставіць да 15—16 тысяч сялянскага апалчэння і 1,5—1,7 тысячы гарадскога. Гэта даволі значны мабілізацыйны рэсурс, што дазваляе зразумець, чаму Усяслаў так хутка пасля бітваў узнаўляў вайсковы патэнцыял.

Але тады, на пачатку 1067, Усяслаў яшчэ быў у сваім княстве і ўяўляў небяспеку. Характэрна, што і Яраславічы не рушылі на Полацк пасля Нямігі, а, заняўшы паўднёвыя абшары Полацкіх земляў, адышлі да Оршы.

Пра тое, дзе знаходзіўся першапачатковы Менск, чытайце ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».

Баліць

## «Яны што — афанарэлі зусім?»

У Глыбокім зашываюць пенапластам унікальны мураваны будынак.

Я не магу прайсці вольна па Глыбокім, каб нехта не спыніў і не задаў адно і тое пытанне: «Навошта тынкаваць старадаўні чырвона-цагляны будынак Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея? Ва ўсім свеце найбольш цэняцца менавіта такія аўтэнтычныя будынкі!»

Знаёмы інжынер-энергетык кажа: «Хоць я і ўраджэнец Расіі, жыву ў Глыбокім нядаўна, але ў мяне нагортваюцца слёзы на вачах. Я не магу зразумець — навошта да Дня беларускага пісьменства гэты прыгожы стары будынак трэба тынкаваць? Яны што — афанарэлі зусім?»

Аўтар гэтых радкоў зрабіў спробу высветліць акалічнасці справы.

Супрацоўнік аддзела культуры райвыканкама, які прасіў не называць яго прозвішча, паведаміў: «Прыехалі дзве маладыя зялёныя дзеўкі з Віцебска і сказалі, што ў іх ёсць дыпломы архітэктараў. Паглядзелі на будынак музея і вынеслі вырак: «Это здание нужно утеплить!»

Будаўнікі-рамонтнікі, пачуўшы вырак, кінуліся ў рогат.

«А вы бачылі сцяну будынка? — пытаюцца яны ў дзевак. І, нібы рыбакі, разводзяць рукамі. — Таўшчыня сцяны — каля метра. Усярэдзіне «вакуумная муроўка». Гэтая сцяна ніколі не прамерзне! Навошта будынак уцяпляць і тынкаваць!?»

У нас толькі з дзясятак гадоў як з'явіліся вакуумныя вокны ПВХ, толькі цяпер пачалі ўцяпляць будынкі пенапластам і шклаватай ды тынкаваць. А тут без малога сотню гадоў таму ўжо існавалі тэхналогіі ўцяплення будынкаў: «вакуумная муроўка» сцен, калі ў тоўшчы сцяны пакідаўся «прасвет», рабіўся свайго роду «тэрмас».

«Здание нужно утеплить!» — усё ж дамагліся свайго юныя «дойлідкі».

І пачалася работа па ўцяпленні і тынкаванні будынка.

Зразумела, аўтар гэтых радкоў тэлефанаваў Антону Астаповічу, старшыні «Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры».

— У Глыбокім знішчаюць помнік архітэктуры! Трэба неяк бараніць! — кажу.

На наступны дзень тэлефануе спадар Астаповіч:

— Валодзя, я спраўдзіў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў па гораду Глыбокае, і будынка музея ў тым спісе няма...

#### З будынкам звязана змрочнае паданне

Кажуць, яго ўзводзіў на пачатку XX ст. «праграб»-беларус Крывёнак для мясцовай яўрэйскай супольнасці. Аднак не разлічыўся годна з будаўнікамі. Фактычна, завалодаў будынкам. Яўрэі ж праклялі будынак да сконы веку: «Ты, пан Крывёнак, тут жыць ніколі не будзеш, як ніколі ніхто не будзе жыць!» І сапраўды: неўзабаве прыйшлі бальшавікі. Двухпавярховы дыхтоўны будынак у Крывёнка яны канфіскавалі. Потым, у паваенны перыяд, тут было ўсё, але толькі не жылы дом: гарсавет, кантора ЖКГ, потым музей...



— Не сысці мне з гэтага месца! — кажу. — Гадоў дзесяць таму сам чытаў у раённай газеце, што будынку музея нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, якая падлягае ахове дзяржавы.

— Спісы ледзьве не штогод пераглядаюцца. Трэба было вашым уладам ізноў падаваць удакладнены спіс, а яны ці забыліся, ці паленаваліся...

Вось і ўсё! Змагайся-не змагайся, пішы-не пішы прапановы... Уключылі. Удакладнілі. Выкраслілі.

У Глыбокае на выходныя дні — субота-нядзеля — прыязджае да 10 турыстычных аўтобусаў у дзень. Сам лічыў! Да 800 чалавек! Няўжо турыстаў зацікавяць хрушчоўкі 1960-х, пераробленыя да Дня пісьменства пад «глыбоцкае барока»? Гэта ж навабуд. А людзі едуць глядзець нашую гісторыю і культуру, а гэтая гісторыя шалюецца пластыкам, абшываецца пенапластам, тынкуецца.

**Уладзімір Скрабатун, Глыбокае**

## АЛІМПІЯДА

### 3 жніўня

У цяжкай атлетыцы медалі разыграюць мужчыны ў катэгорыі 85 кг (Беларусь прадставіць Андрэй Рыбакоў) і жанчыны ў катэгорыі 75 кг (Ірына Кулеша).



У дзюдо краіну прадставіць алімпійскі чэмпіён Афін Ігар Макараў (вагавая катэгорыя — 100 кг).

А 22.30 пройдзе фінал сярод штурхальнікаў ядра. Нашы надзеі — Андрэй Міхневіч і Павел Лыжын.

### 4 жніўня

У скачках на батуце выступіць чэмпіёнка Еўропы Тацццяна Пятрэня. Фінал а 17.30.

### 5 жніўня

У вагавай катэгорыі 74 кг у барацьбе Беларусь прадставіць Аляксандр Кікінёў.

### 6 жніўня

Лезгін Алім Сялімаў — адна з галоўных надзей нашай каманды ў грэка-рымскай барацьбе. Кваліфікацыя пачнецца а 15.00. Фінал — а 20.25.

Фінал у жанчын у штурханні ядра пачнецца а 21.45. Беларусь прадставяць Яніна Карольчык, Надзея Астапчук, Наталля Харанека. Мо замахнуцца на ўвесь п'едэстал?

# «Гомель» — «Ліверпуль»

**У трэцім кваліфікацыйным раўндзе Лігі Еўропы «Гомель» 2 жніўня** прыме англійскі «Ліверпуль». Матч пройдзе ў горадзе над Сожам на стадыёне «Цэнтральны». Ажыятаж абяцае быць не меншым, чым перад гульнямі «Барселоны» ў Мінску. «Ліверпуль» — 18-разовы чэмпіён Англіі, пяць разоў каманда выйгравала Лігу чэмпіёнаў, тройчы Кубак УЕФА і яшчэ аднойчы Кубак кубкаў. У складзе «мерсісайдцаў» выступаюць такія вядомыя футбалісты, як Стывен Джэрард, Эндзі Кэрал, Луіс Суарэс, Хасэ Рэйна, Крэйг Бэламі, Джэймі Карагер. «Ліверпуль» мае шмат фанатаў у розных краінах, у тым ліку ў Беларусі. Пачатак а 21.00. Білеты — 70-400 тысяч.




## Злёт аматараў актыўнага адпачынку

**Ад 3 да 5 жніўня на маляўнічым беразе Плешчаніцкага вадасховішча пад Лагойскам** пройдзе IV Міжнародны злёт аматараў актыўнага адпачынку. Адбудзецца ён у турысцкім лагеры — пікнік-гатэлі «Экспедыцыя». Гэта прыватная тэрыторыя, дзе тэхнары ганяюць на квадрацыклах і аквабайках, экстрэмалы фарсуюць паласу перашкод, гульцы разыгрываюць чэмпіёнства ў футболе, валейболе і бадмінтоне, аматары вышыняў асвойваюць вяровачны горад, гурманы чакаюць, калі засмажыцца бык на ражне, а рамантыкі падпяваюць бардам. Білеты па тэлефоне (044) 558 7 555



## Канцэрт гурта Recha

**3 жніўня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — «Урбан»: гурт Recha.



### 8 жніўня

Кіданне молата сярод жанчын. Аксана Мянькова — пераможца мінулай Алімпіяды. Пачатак фіналу а 21.35.

## КАНЦЭРТЫ

### Jazz&Latino

**1 жніўня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Jazz&Latino: «Benny D'Art».

### Дабрачынны канцэрт

**2 жніўня ў клубе Orion (Ціміразева, 123/2)** — дабрачынны канцэрт па зборы сродкаў на выратаванне жыцця Яраслава Яворскага.

### Blues Mobile

**4 жніўня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурта Blues Mobile.



## ВЫСТАВЫ

### Жывыя матылькі

**Да 31 жніўня ў Мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра мастацкай творчасці (Гікалы, 4)** працуе выстава жывых экзатычных матылькоў. Наведнікі могуць назіраць свабодны палёт матылькоў, іх узаемаадносіны, а таксама ўсе метамарфозы іх развіцця.

### Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі

**Да 4 жніўня ў вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі».Работы яднае вобразнасць выяўленчай мовы. Нацыянальная і гістарычная тэматыка падказвае сюжэты для многіх кампазіцый.

### Сад камянёў

**Да 26 жніўня ў філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь «Дом-музей I з'езда РСДРП»** працуе выстава мінералаў «Сад камянёў». На выставе прадстаўлены ўзоры мінералаў (групы кварца, рудныя, самародныя элементы, карбанаты), горныя пароды, каменныя вырабы, выкапнёвыя арганізмы, высакародныя камяні для апрацоўкі і вырабаў, археалагічныя знаходкі.

### Юбілейная выстава Сямёна Абрамава

**Да 2 жніўня ў Палацы мастацтва (Казлова, 3)** працуе выстава Сямёна Абрамава «Мастацтва — маё жыццё», прысвечаная 75-годдзю мастака.

### «Гараджанкі»

**Да 15 жніўня ў бібліятэцы імя Цёткі (Талбухіна, 12а)** працуе выстава «Гараджанкі: вобразы мілыя роднага краю», прымеркаваная да 130-годдзя з дня нара-джэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. На выставе прадстаўлены работы ў тэхніцы ручной вышыўкі.

### Партатыўныя лялечныя тэатры

**Ад 13 ліпеня ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры** працуе выстава партатыўных лялечных тэатраў «Міракль аб Уршулі».

## ТЭАТРЫ

### 1 жніўня

**Сучасны мастацкі** — «Турандот».

### 2 жніўня

**Сучасны мастацкі** — «Фігара.tut».

### 6 жніўня

**Сучасны мастацкі** — «Турандот».

### 9 жніўня

**Сучасны мастацкі** — «Кастынг».

## КІНО

### Рыцар горада

**Цёмны рыцар: Адраджэнне легенды** (The Dark Knight Rises)
ЗША — Вялікабрытанія, 2012, каляровы, 165 хв.
**Рэжысёр:** Крыстафер Нолан
**Ролі выконваюць:** Крысціян Бэйл, Том Гардзі, Эн Хэтаўэй, Марыён Кацір, Джозэф Гордан-Левіт, Гары Олдмэн, Морган Фрымэн, Майкл Кейн, Кіліян Мёрфі
**Жанр:** Комікс
**Адзнака:** 7 (з 10)

Восем гадоў таму Бэтмэн пакінуў горад, узяўшы на сябе чужыя правіны. Але загадкавая ліхадзейка ў кацінай масцы і тэрарыст Бэйн прымушаюць Бруса Уэйна зноў апрануць касцюм Цёмнага рыцара.

Завяршальная стужка ў трылогіі Крыса Нолана распачалася злачынствам у Дэнверы, дзе псіхапат расстраляў гледачоў. Рэальнасць уварвалася ў кіно, але і сам фільм ужо даўно не звычайны комікс, а трагедыя пра гераізм. Чалавек прагне абараняць іншых, але сілы ўжо не тыя. Герой змагаецца за дабро, а ў ім бачаць зло. Нягоднікі надзяваюць маску дабра і патураюць інстынктам натоўпу.

У падмурак кінакомікса Нолан паклаў твор Дыкенса «Аповесць пра два гарады», дзе рэвалюцыйныя масы караюць арыстакратаў. Тэрарыст Бэйн ачольвае пераварот, грамадзяне пляскаюць зверствам, «народны» суддзя — вызвалены Кіліян Мэрфі — пасылае падсудных на смерць. Нолан паказвае сацыяльныя механізмы зла, якія вельмі проста запусціць — і вельмі цяжка спыніць. Самотны Бэтмэн — як у іншых нядаўніх коміксах — амаль без маскі; гэта чалавек, які мусіць быць героем насуперак абставінам — і які далёка не заўжды перамагае.

Трэцяя частка «Бэтмэна» не настолькі эфектная, як другая, але ад экрана ўсё роўна немагчыма адарвацца.

**Андрэй Расінскі**



# Невядомыя забаўкі на летнія выходныя

Што такое **аквазорбінг, сегвэй і багі?**

Заходняя індустрыя адпачынку прыносіць беларусам усё новыя і новыя атракцыёны. «Наша Ніва» дае парады, як цікава правесці выходныя — выйсці сухім з вады, аб'ехаць усе славутыя месцы горада за паўгадзіны і паспаборнічаць на смешных машынах.





### Аквазорбінг

Яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя ў Францыі і Новай Зеландыі мясцовыя экстрэмалы вынайшлі сабе новую забаўку — зорбінг. Яны скатваліся з горак у вялікіх празрыстых і мяккіх шарах. Падчас такога спуску атрымаць траўму было амаль немагчыма. З цягам часу тэхналогія ўдасканальвалася і выкарыстоўвалася ўсё шырэй — спуск са снежных схілаў, падарожжа ўнутры аэратрубы...

Найбольш простым, а таму і папулярным, аказаўся менавіта аквазорбінг — бег у шарах па вадзе. На паверхні возера трымаецца вялікі шар, унутры якога знаходзіцца яшчэ адзін шар, але меншы. Між імі — паветра, якое не дае канструкцыі патануць. Унутр запускаюць аднаго ці двух чалавек, якія спрабуюць утрымацца на паверхні і не зваліцца на радасць разявакам.

Некалькі такіх шароў у сонечнае надвор'е знаходзіцца на пляжы №3 Мінскага мора (Заслаўскага вадасховішча). Кошт пракату складае 30-40 тысяч рублёў за пяць хвілін. Ёсць такая забава і ў парку імя Горкага.

### Сегвэй

Прыладай, якая мае нешта ад скутара, а нешта ад самаката, часцяком карыстаюцца на фабрыках, складах ці ў гіпермаркетах. За кошт убудаванага акумулятара апарат рухаецца з хуткасцю каля 10-20 км/г і пераўтварае мінака ў кіроўцу, якому не трэба прыкладаць лішніх намаганняў, каб перасоўвацца па памяшканні.

Кіраваць сегвэем нескладана. Апарат набірае хуткасць, калі яздок нахіляецца ўперад. Для таго, каб затармазіць, адпаведна, трэба адхіліцца назад. Спецыяльнай ручкай можна паварочваць налева і направа.

Падарожжы на сегвэях папулярныя ў заходніх гарадах. Турысты могуць хутка агледзець вартыя ўвагі мясціны, не карыстаючыся для пераезду грамадскім транспартам. Манеўранасць дазваляе лёгка аб'язджаць мінакоў, а пры патрэбе сегвэй можна ўзяць з сабой і ў метро ці ў аўтобус.

Кожны такі апарат каштуе $4-5 тысяч. У Мінску пракатам сегвэяў займаюцца каля Палаца спорта. Кошт складае ад 20 тысяч рублёў за 5 хвілін да 180 тысяч за гадзіну катання.

**На інтэрнэт-сайтах са зніжкамі можна знайсці ўдвая таннейшыя прапановы »**



### Экстрэмальныя гонкі

На постсавецкай прасторы пад квадрацыкламі разумеюць чатырохколавыя адкрытыя ўсюдыходы для аматараў экстрэмальнага адпачынку. Пясок, поле, гразь — для такіх машын падыходзіць ледзь не любая паверхня.

20-кіламетровы тур на квадрацыклах за межы Мінска ад кампаніі «АТВ-пракат» каштуе $40. Гэтая адлегласць праязджаецца за паўтары гадзіны. Тур пачынаецца з вуліцы Скарыны за Нацыянальнай бібліятэкай. Мінімальны ўзрост падарожніка — 16 гадоў.

Яшчэ адзін від аўтамабіляў — багі — можна арандаваць у аднайменным цэнтры, які працуе ў раёне стадыёна «Зара» паміж сталічнымі мікрараёнамі Уручча і Зялёны Луг. Ён прапануе заезды на смешных аўтамабілях-уседарожніках па пясчанай трасе, прычым пасведчання кіроўцы для гэтай забаўкі не трэба. Кошт двух пяціхвілінных заездаў складае 180 тысяч рублёў.

**Ягор Марціновіч**





---

**Тэлефанія**

### МТС павышае тарыфы на 10-12%

З 1 жніўня аператар мабільнай сувязі МТС зноў павысіў цэны на паслугі сувязі. Выдаткі абанентаў вырастуць на 10–12%.

Напрыклад, для ТП «Выдатны» абаненцкая плата вырасце на 22% да 21 900 рублёў, званкі падаражэюць на 25% да 150 рублёў за хвіліну. На ТП «Р300» выклікі абыйдуцца значна даражэй: 150 рублёў у сетцы (36%-ны рост) і 550 рублёў (22%) у іншыя сеткі па Беларусі.

Кошт SMS-паведамленняў, роўмінгу і мабільнага інтэрнэту застанецца нязменным.

Папярэдняе павышэнне тарыфаў адбылося ў сакавіку.

### Колькасць абанентаў life:) скарацілася на 30%, выручка працягвае падаць

Турэцкая кампанія Turkcell зрабіла справаздачу пра квартальныя паказчыкі даччыных прадпрыемстваў, у тым ліку беларускай life:).

У параўнанні з I кварталам, колькасць кліентаў кампаніі скарацілася амаль на трэціну — з 1,7 да 1,2 мільёна карыстальнікаў. Працягвае падаць выручка кампаніі. У другім квартале яна склала амаль $14 мільёнаў, а год таму дасягала $16 мільёнаў. Як адзначылі ў Turkcell, цяперашняя і будучая эканамічная сітуацыя ў краіне можа неспрыяльна адбіцца на дзейнасці беларускага life:).

**ЯМ**

**Тэхналогіі**

### Спецслужбы змогуць праслухоўваць і чытаць Skype

Кампанія Microsoft і сервіс Skype, якія ёй належаць, пачынаюць супрацоўніцтва са спецслужбамі ў максімальна магчымым аб'ёме.

Пра гэта паведаміў піяр-дырэктар кампаніі Хаім Хаас. Гэта азначае, што цяпер амерыканскія спецслужбы змогуць атрымаць усе дадзеныя асабістай перапіскі карыстальнікаў і праслухоўваць размовы па афіцыйным запыце.

Раней Skype быў адным з самых абароненых спосабаў зносін у інтэрнэце. Перахапіць дадзеныя было практычна немагчыма. Гэта неадназова выклікала пратэсты спецслужбаў у розных краінах. Напрыклад, у 2008 у Германіі паліцыя нават наняла хакераў, каб яны знайшлі спосаб узламаць Skype і сачыць за планамі зламыснікаў.

**ЯМ**

**Сцісла**

#### Ryanair стане бліжэй

Ірландская авіякампанія танных білетаў Ryanair паведаміла, што з 7 лістапада пераносіць з Коўна ў Вільню пяць маршрутаў — у Брусэль, Лідс, Ліверпуль, Лутан і Осла. З Коўна самалёты гэтай кампаніі па-ранейшаму будуць лётаць у Брысталь, Дублін, Франкфурт і Лондан.

#### Металашукальнікі пад забаронай

У Беларусі будзе забаронена выкарыстанне металашукальнікаў усімі, хто не звязаны з вывучэннем нетраў на прафесійным узроўні. Такія меры ўвялі з-за актыўнасці так званых «чорных капальнікаў».

#### Здымкі з шакаладу

Амерыканскія кандытары з Філадэльфіі навучыліся друкаваць «салодкія» фатаграфіі. Фотаапарат адразу працяцыруе малюнак на шакаладную плітку. Кавалак такой эфемернай «памяці» каштуе $8,5.

**ЯМ**




АКСАНА РУДОВІЧ

**Канфлікт у Мінскім раёне: жыхары пасёлка Ждановічы абураюцца, што санаторый «Крыніца» агарадзіў значную частку пляжа. Санаторый, аднак, мае адпаведныя дазволы. Больш пра супрацьстаянне — на сайце nn.by.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Пілігрымка Барысаў — Росіца. Вячэра пілігрымаў ля падмурка былога касцёла ў мястэчку Зембін.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У калекцыі Мастацкага музея з'явіліся работы Шагала — «Крыжовы шлях» і «Бачанне Апакаліпсіса». Міністр культуры Павел Латушка паказвае журналістам атрыманыя ў падарунак ад «Белгазпрамбанка» творы.**



**Аголеная актывістка «Фемен» атакавала патрыярха Кірылу ў Кіеве са словамі «Изыди вон». Ахова дзяўчыну да патрыярха не пусціла.**

## Анекдоты

* * *

— У нас у гасцях заслужаны морж Беларусі. Раскажыце, як Вы ўпершыню апынуліся ў палонцы?

— Гэтак жа, як і ўсе: вырашыў пайсці напрасткі.

* * *

У адказ на тое, што Лукашэнку не пусцілі ў Лондан на Алімпійскія гульні, у Мінску будуць зачыненыя бар «Лондан» і кавярня «Алімп».

* * *

Пасля прызнанняў Лукашэнкі, што мядзведзікі такі былі, шведы прызналіся, што гэта мантаж і фаташоп.

* * *

Беларускі спадарожнік зможа дапамагаць праваахоўным органам сачыць за нецэнзурнай лаянкай на вуліцах Мінска.

* * *

Калі ў працоўным дні 8 гадзінаў, у гадзіне 60 хвілінаў, у хвіліне 60 секундаў, то можна спакойна далічыць да 28 800 і смела ісці дахаты.

* * *

— Учора на мяне напалі рабаўнікі. Забралі грошы, гадзіннік.

— А як жа твой медаль чэмпіёна па боксе!

— О! Медаль яны не знайшлі.

* * *

Сыходзячы ў адпачынак, абавязкова зрабі так, каб у тваю адсутнасць нечакана ўсплыла парачка табой не вырашаных праблем, бо інакш могуць задумацца пра неабходнасць тваёй пасады!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Высокі Двор. Віленская губерня.** Тут адкрылася пазычковая каса. Адразу запісалася членамі больш за 35 душ. Трэба было б завесці гэткі парадак, каб пазычкі выдаваліся толькі на карысныя ў гаспадарцы справы: на капанне канаў, па паляпшэнне лугоў і зямлі, на лепшае насенне, жывёлу і сельскагаспадарчыя машыны, — тады б паднімалася гаспадарка, а так часта-густа пазычка замест карысці адно шкоду прыносіць.

**«НН». №29. 1912.**

**Улада на папа.** Жыхары Пагранічнага бароняць сваю аўтакефальную царкву. Берастравіцкі райвыканкам пастанавіў разбурыць храм. Улады па старой, яшчэ камуністычнай памяці ведаюць, што царкву трэба руйнаваць хутка. Праз дзень яе мусіла не быць. Але бараніць яе сабраліся вернікі. Яны нават начавалі там, каб вандалізм не адбыўся ўначы.

**«НН». №29. 2002.**


**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Бела-рускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэ-гістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 31.07.2012.
Замова № 3218.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12